ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 15 (1549) | Аўторак, 21 лютага 1961 года | Цана 4 кап.

## НЕ СПЫНІЦЬ, НЕ ЗАТРЫМАЦЬ

Міхась ЛЫНЬКОЎ

Афрыка... Вялікая шматпакутная краіна! Як мала мы ведалі аб ёй! За сямю замкамі, за сямю пячаткамі хавалі яе ад усяго свету хціўныя каланізатары, якія захапілі яе землі, яе незлічоныя багацці, духоўныя скарбы яе народа.

Што маглі зрабіць супраць няпрошаных прышэльцаў чорныя жыхары краіны? Хіба маглі ўстаяць старажытны лук і такое ж прымітыўнае кап'ё супраць вінтовак, гармат і кулямётаў белых захопнікаў? Агнём і жалезам узаконьвалі белыя свае перавагі над чорнымі. Кайданамі скоўвалі рукі непакорлівых, кулямі заглушалі галасы пратэсту, галасы праўды і справядлівасці. Біблiяй, крыжам, мабілізаванымі на дапамогу кулямёту, атручвалі душы людзей, хрыстовым вучэннем імкнуліся прышчапіць людзям сляпую пакорлівасць беламу гаспадару, звышчалавечую цярплівасць перад здзекамі, гвалтам, прыгнётам, звярынай эксплуатацыяй.

Калі стагоддзі назад вывозіліся з Афрыкі караваны нявольнікаў з тубыльцаў краіны, якіх лавілі, на якіх палявалі, як на дзікіх звяроў, дык пазней усе чорныя насельнікі былі ператвораны ў бяспраўных аселых нявольнікаў. Гэтыя рабы і павінны былі ўсё жыццё пакорна працаваць на сваіх белых гаспадароў, аддаючы за бясцэнак сваю працу, свае набыткі. Ідзе нечуванае рабаўніцтва. Абрабоўваюць зямлю, адбіраючы лепшую ў мясцовага насельніцтва, абрабоўваюць яе незлічоныя багацці, абрабоўваюць прадукты працы чалавека. Па танных цэнах купляецца ўсё, што здабыта афрыканцам: алмазы, золата, бавоўна, бананы, пальмавае масла і г. д. І ўсё гэта з казачнымі звышпрыбыткамі прадаецца на сусветных біржах. Мы правядзём толькі адзін прыклад таго, як нажываюцца каланізатары на рабаўніцтве прыродных багаццяў краіны. Адна з бельгійскіх кампаній купіла зямлю ля возера Ківу (Конга) «для эксплуатацыі карысных выкапняў». Плаціла яна па аднаму франку за гектар. Потым яна распрадала гэтую зямлю, узяўшы па 160 франкаў за квадратны метр. Як бачыце, гэтая кампанія атрымала 160 000 франкаў там, дзе яна выдаткоўвала адзін франк.

Такія прыклады можна прыводзіць бясконца. Так рабілася ў Конга, так рабілася ў кожнай калоніі. На долю мясцовага насельніцтва даставаліся голад, бяспраўе, нязносная галеча, непісьменнасць, шматлікія хваробы. Людзі выміралі. За гады панавання бельгійскіх каланізатараў у Конга насельніцтва калоніі зменшылася напалавіну. Такія вынікі каланіяльнай «цывілізацыі». Зразумела, што такую «цывілізацыю» цярпець далей было немагчыма. Каланізатары ўсё адабралі ад мясцовага жыхара: зямлю, яе багацці, яго працу, яго свабоду. Аднаго яны не маглі адабраць ад яго: чалавечую годнасць яго, імкненне да свабоды, палымяную нянавісць да прыгнятальніка. На заняволеных прасторах Афрыкі з'яўляюцца першыя «сцяжынкі грому». З кожным годам іх станавілася ўсё болей і болей, і, з'яднаўшыся разам, яны ператварыліся ў грозную навальніцу, якая змяла захрыбетнікаў з многіх зямель, зрабіла многія і многія калоніі незалежнымі, свабоднымі дзяржавамі. Мінулы год быў асабліва паспяховым у разняволенні афрыканскіх народаў, калі больш дзесятка калоній атрымалі свабоду, сталі самастойнымі дзяржавамі, былі прыняты ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. Па ініцыятыве Савецкага Саюза ААН прымае пастанову аб ліквідацыі ў бліжэйшым часе каланіяльнага рэжыму, дзе б ён ні існаваў, пад якім выглядам ні маскаваў бы сваё гнуснае аблічча.

Так нарадзілася і незалежная рэспубліка Конга. Яе слаўны кіраўнік, выпрабаваны змагар з каланіялізмам, Патрыс Лумумба зрабіўся сімвалам новай, свабоднай Афрыкі, спалучыўшы ўсе лепшыя, перадавыя імкненні афрыканскіх народаў. Пачалася бурная стваральная праца народа, які ўпершыню атрымаў сапраўдную свабоду. Якія бязмежныя перспектывы адкрыліся перад ім, перад яго будучыняй!

Але каланіялізм не здае мірна сваіх пазіцый. Цёмныя сілы сусветных захрыбетнікаў плялі сваё гнуснае павуцінне вакол мужных, гераічных людзей, якія сталі на чале краіны. Яны пусцілі ў ход усе прызвычаеныя сродкі сваёй разбойніцкай сістэмы: шантаж, паклёпы, подкупы, сеянне варожасці і г. д. І вось адбылося нечуванае па свайму зверству, па сваёй цынічнай раз'юшанасці забойства Патрыса Лумумбы, Морыса Мпола і Жозефа Окіта. Бельгійскія забойцы разам са сваімі яўнымі і тайнымі саюзнікамі занеслі акрываўлены меч над незалежнасцю краіны, над свабодай яе народа.

Увесь свет абураны гэтым зладзейскім забойствам, якое само па сабе з'яўляецца праявай смяротнага жывёльнага страху аджыўшага каланіяльнага свету, які ў прадчуванні свайго непазбежнага скону, кідаецца, як паранены звер, каб укусіць, нанесці цяжкія раны, прынесці шкоду. Увесь свет ведае, што звер гэты здохне, сканае.

Усе сумленныя людзі зямлі акажуць належную дапамогу шматпакутнаму кангалезскаму народу ў яго мужнай барацьбе за сваю свабоду і незалежнасць. Усе людзі на зямлі цвёрда пераконаны, што гнусныя забойцы будуць дастойна пакараны, іх не выратуюць ні розныя хамаршэльды, ні ім падобныя абаронцы.

Пераможнага ходу гісторыі не спыніць, не затрымаць!

## Купалаўцы — да XXII з'езду партыі

У сувязі з падрыхтоўкай да XXII з'езду КПСС у Беларускім акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся адкрыты партыйны сход. З дакладам выступіў дырэктар А. Тэлічан. Ён заклікаў калектыў накіраваць усю творчую працу на дастойную сустрэчу чарговага з'езду нашай партыі.

Творчы калектыў імкнецца папоўніць рэпертуар новымі п'есамі беларускіх драматургаў. Мінскі глядач ужо ўбачыў прэм'еру «Твой светлы шлях» па п'есе А. Маўзона. У другой палавіне сакавіка будзе паказаны спектакль «Лявоніха на арбіце» па п'есе А. Макаёнка. Рэжысёр К. Саннікаў прыступае да работы над пастаноўкай новай п'есы П. Васілеўскага «Надзея. Вера, Любоў».

— Наш калектыў, — сказаў А. Тэлічан, — шэфствуе над народнымі тэатрамі Барысава, Ашмян і Мінскага аўтазавода. Трэба вітаць добрае пачынанне народнага артыста СССР Б. Платонава, які нядаўна пабываў у Аршанскім народным тэатры і выступіў у ролі Канстанціна Заслонава ў аднайменным спектаклі. Такая творчая ўзаемасувязь сталага майстра сцэны з аматарамі мае вялікае выхаваўчае значэнне.

Іншыя вядучыя акцёры павінны пераняць гэты прыклад. Тэатру імя Я. Купалы трэба ўжо цяпер уключыцца ў падрыхтоўку да дэкады тэатральнага мастацтва, якая адбудзецца ў кастрычніку гэтага года ў Мінску. На дэкадзе будуць пастаўлены лепшыя творы сучаснай драматургіі.

Мы не павінны, кажа А. Тэлічан, забываць пра сельскага гледача. Тэатр абавязваецца паказаць 50 спектакляў у раённых дамах культуры і калгасах, наладзіць 40 культпаходаў у тэатр калгаснікаў з бліжэйшых да горада вёсак.

Каб выканаць узятыя абавязацельствы, мясцкому тэатра трэба арганізаваць у вытворчых цэхах сацыялістычнае спаборніцтва, кантраляваць ход работы, падводзіць яе вынікі і лепшых работнікаў прэміяваць.

У спрэчках выступілі старшыня мясцовага камітэта прафсаюза **З. Стома**, артысты **І. Ждановіч, С. Станюта, Т. Аляксеева, Б. Дакальская**, рэжысёр **Б. Эрын**, загадчык электрацэха **І. Гурэцкі**. Яны гаварылі пра недахопы ў рабоце калектыву, пра тое, што адсутнічае дакладны графік працы, не вырашана пытанне замены акцёраў і не пераадолена цякучасць у рабоце цэха. Сустракаюцца яшчэ выпадкі парушэння вытворчай дысцыпліны.

Б. Дакальская прапанавала стварыць канцэртную брыгаду для абслугоўвання выбаршчыкаў і працоўных на прадпрыемствах, у калгасах. Сход падтрымаў яе прапанову.

Прынята пастанова, якая абавязвае партбюро, мясцком, камсамольскую арганізацыю, мастацкае кіраўніцтва тэатра ліквідаваць недахопы ў працы і мабілізаваць калектыў на выкананне ўзятых абавязацельстваў у гонар XXII з'езду КПСС.

## Семінар кіраўнікоў самадзейнасці

Віцебскі Дом народнай творчасці правёў дзесяцідзённы абласны семінар кіраўнікоў сельскай мастацкай самадзейнасці раённых дамоў культуры і прафесіянальных клубаў па харавому, танцавальнаму і тэатральнаму жанрах. На семінары выкладалі рэжысёр Тэатра імя Якуба Коласа Б. Браганцаў, артыст Я. Буракоў, балетмайстры Я. Хвораст, В. Касатаў, хармайстар В. Кузняцоў, метадыст абласнога Дома народнай творчасці Г. Сакалова і дырэктар музвучылішча Г. Кутневіч.

Былі прачытаны лекцыі «Як разумець музыку», «Савецкая песня», «Беларуская песня», аб міжнародным становішчы і інш.

Удзельнікі семінара прагледзелі спектаклі «Лявоніха», «Заводскія хлопцы» і інш., сустракаліся з майстрамі мастацтва. Было праведзена некалькі сустрэч і гутарак з вядучымі артыстамі Тэатра імя Якуба Коласа.

**М. ТЫШЭВІЧ.**

Віцебск.

## Вечары мастацкага чытання

Чатыры літаратурныя вечары-канцэрты з удзелам заслужанай артысткі УССР А. Леснiковай наладзіла Беларуская дзяржаўная філармонія для працоўных Мінска.

Харкаўская артыстка ўключыла ў праграму выступленняў урыўкі з рамана Л. Талстога «Анна Карэніна», апавяданне А. Талстога «Гадзюка», літаратурную кампазіцыю «Старонкі кахання».

Выступленні А. Леснiковай мелі вялікі поспех у слухачоў беларускай сталіцы.

## АД КАМІТЭТА ПА ЛЕНІНСКІХ ПРЭМІЯХ У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ СССР

Камітэт па Ленінскіх прэміях у галіне літаратуры і мастацтва паведамляе, што з усіх работ, прадстаўленых на атрыманне Ленінскіх прэмій 1961 года, пасля іх разгляду секцыямі і пленумам камітэта, адабраны для далейшага абмеркавання наступныя кандыдатуры:

### У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ

1. **Айтматаў Чынгіз.** «ДЖАМІЛЯ», аповесць.

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў Кіргізіі.

2. **Арбузаў А. М.** «ІРКУЦКАЯ ГІСТОРЫЯ», п'еса.

Прадстаўлена ЦК прафсаюза работнікаў культуры, Міністэрствам культуры РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР, камбінатам «Трохгорная мануфактура».

3. **Ганчар А. Ц.** «ЧАЛАВЕК І ЗБРОЯ», раман.

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў Украіны, рэдкалегіяй часопіса ЦК ЛКСМУ «Смена».

4. **Кажэўнікаў В. М.** «ЗНАЁМЦЕСЯ, БАЛУЕЎ», аповесць.

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў РСФСР, Дзяржаўным выдавецтвам мастацкай літаратуры.

5. **Маркаў Г. М.** «СОЛЬ ЗЯМЛІ», раман.

Прадстаўлена Маскоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР, Дзяржаўным выдавецтвам мастацкай літаратуры, выдавецтвам ЦК ВЛКСМ «Молодая гвардия», рэдкалегіяй часопіса «Дальний Восток».

6. **Пракоф'еў А. А.** «ЗАПРАШЭННЕ ДА ПАДАРОЖЖА», кніга вершаў.

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР, Ленінградскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР.

7. **Рашыдаў Ш. Р.** «МАЦНЕЙ ЗА БУРУ», раман.

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў Узбекістана, Ташкенцкім дзяржаўным універсітэтам імя Ул. І. Леніна.

8. **Салынскі А. Д.** «БАРАБАНШЧЫЦА», п'еса.

Прадстаўлена Маскоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР.

9. **Сіманаў К. М.** «ЖЫВЫЯ І МЁРТВЫЯ», раман.

Прадстаўлен рэдкалегіяй часопіса «Знамя».

10. **Салаухін В. А.** «КРОПЛЯ РАСЫ», лірычная аповесць.

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР, выдавецтвам ЦК ВЛКСМ «Молодая гвардия», рэдкалегіяй часопіса «Знамя».

11. **Сафронаў А. Ул.** «КУХАРКА», п'еса.

Прадстаўлена Міністэрствам культуры РСФСР, Саюзам пісьменнікаў РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР.

12. **Твардоўскі А. Т.** «ЗА ДАЛЛЮ — ДАЛЬ», паэма.

Прадстаўлена Саюзам пісьменнікаў СССР, рэдкалегіяй газеты «Правда», Саюзам пісьменнікаў РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР, Ленінградскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР, Дзяржаўным выдавецтвам мастацкай літаратуры, выдавецтвам ЦК ВЛКСМ «Молодая гвардия», рэдакцыяй газеты «Красный маяк» (Палкінскі раён, Пскоўскай вобласці).

### У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ І КАНЦЭРТНА-ВЫКАНАЎЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

1. **Жыганаў Н. Г.** «ДЖАЛІЛЬ», опера.

Прадстаўлена Саюзам кампазітараў СССР, Міністэрствам культуры РСФСР, Татарскім абкомам КПСС, Міністэрствам культуры Татарскай АССР, Саюзам кампазітараў Татарыі, Татарскім дзяржаўным тэатрам оперы і балету імя М. Джаліля.

2. **Іваноў К. К.** Канцэртна-выканаўчая дзейнасць.

Прадстаўлена Маскоўскай дзяржаўнай філармоніяй.

3. **Мравінскі Я. А.** Канцэртна-выканаўчая дзейнасць.

Прадстаўлена Міністэрствам культуры РСФСР, Саюзам кампазітараў РСФСР, Ленінградскай дзяржаўнай філармоніяй.

4. **Рыхтэр С. Ц.** Канцэртна-выканаўчая дзейнасць.

Прадстаўлена Міністэрствам культуры РСФСР, Саюзам кампазітараў РСФСР, Маскоўскай дзяржаўнай філармоніяй.

5. **Салманаў Ул. М.** «ДВАНАЦЦАЦЬ», араторыя-паэма для хору і сімфанічнага аркестра.

Прадстаўлена Ленінградскім аддзяленнем Саюза кампазітараў РСФСР.

### У ГАЛІНЕ ВЫЯЎЛЕНЧЫХ МАСТАЦТВАЎ

1. **Галаўніцкі Л. Н.** Скульптура «МЕЖЫ ПЕРААРАНЫ».

Прадстаўлена Саюзам мастакоў РСФСР.

2. **Коржаў-Чувелеў Г. М.** Трыпціх «КАМУНІСТЫ»: «ГАМЕР (РАБОЧАЯ СТУДЫЯ)», «ТОЙ, ХТО ПАДЫМАЕ СЦЯГ», «ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ».

Прадстаўлена Акадэміяй мастацтваў СССР, Міністэрствам культуры РСФСР, Саюзам мастакоў РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза мастакоў РСФСР.

3. **Мальцаў П. Т.** Дыярама «ШТУРМ САПУН-ГАРЫ 7 МАЯ 1944 ГОДА».

Прадстаўлена Галоўным палітычным упраўленнем Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, Севастопальскім гаркомам КП Украіны і гарвыканкомам г. Севастопаля.

4. **Пластоў А. А.** Карціна «ЛЕТА».

Прадстаўлена Саюзам мастакоў СССР, Саюзам мастакоў РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза мастакоў РСФСР.

5. **Пракокаў Б. І.** Серыя малюнкаў «ГЭТА НЕ ПАВІННА ПАЎТАРЫЦЦА».

Прадстаўлена Акадэміяй мастацтваў СССР, Саюзам пісьменнікаў РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза мастакоў РСФСР.

6. **Ткачоў А. П., Ткачоў С. П.** Карціна «МІЖ БАЯМІ».

Прадстаўлена Саюзам мастакоў СССР, Міністэрствам культуры РСФСР, Саюзам мастакоў РСФСР.

7. **Фаворскі Ул. А.** Ілюстрацыі да маленькіх трагедый А. С. Пушкіна (гравюры на дрэве).

Прадстаўлена Маскоўскім аддзяленнем Саюза мастакоў РСФСР.

8. **Чуйкоў С. А.** Трыпціх «АБ ПРОСТЫХ ЛЮДЗЯХ ІНДЫІ»: «МІРНЫЯ БУДНІ», «ПЕСНЯ КУЛІ», «ВЯЧЭРНІ РОЗДУМ».

Прадстаўлена Маскоўскім аддзяленнем Саюза мастакоў РСФСР.

### У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА І КІНЕМАТАГРАФІІ

1. **Віўен Л. С.** — рэжысёр, **Чаркасаў М. К.** — выканаўца ролі Дронава. Спектакль «УСЁ ЗАСТАЕЦЦА ЛЮДЗЯМ» у Ленінградскім дзяржаўным акадэмічным тэатры драмы імя А. С. Пушкіна.

Прадстаўлена Ленінградскім аддзяленнем Усерасійскага тэатральнага таварыства, ленінградскім заводам «Электрасіла».

2. **Пашэнная В. Н.** Выкананне ролей Васы Жалязновай і Старой гаспадыні Ніскавуоры ў спектаклях «ВАСА ЖАЛЯЗНОВА» і «КАМЕННАЕ ГНЯЗДО» ў Дзяржаўным акадэмічным Малым тэатры.

Прадстаўлена Усерасійскім тэатральным таварыствам, Дзяржаўным акадэмічным Малым тэатрам.

3. **Сіманаў Е. Р.** — рэжысёр, **Барысава Ю. К.** — выканаўца ролі Валі. Спектакль «ІРКУЦКАЯ ГІСТОРЫЯ» ў Дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Яўг. Вахтангава.

Прадстаўлена ЦК прафсаюза работнікаў культуры, Кіеўскім райкомам КПСС, Кіеўскім райвыканкомам г. Масквы, Маскоўскім дзяржаўным універсітэтам, маскоўскім заводам «Дынама».

4. **Чухрай Г. Н.** — рэжысёр і аўтар сцэнарыя, **Яжоў В. І.** — аўтар сцэнарыя. Мастацкі фільм «БАЛАДА ПРА САЛДАТА» вытворчасці кінастудыі «Масфільм».

Прадстаўлена Саюзам работнікаў кінематаграфіі СССР, Саюзам пісьменнікаў РСФСР, Маскоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў РСФСР, кінастудыяй «Масфільм».

* * *

Для шырокага азнаямлення савецкай грамадскасці з работамі, вылучанымі на атрыманне прэмій, Дзяржаўны камітэт па радыёвяшчанню і тэлебачанню арганізуе цыкл перадач па радыё і па тэлевізійных цэнтрах. Паказ вылучаных работ ажыццяўляецца ў тэатрах, кінатэатрах, канцэртных залах і на выстаўцы ў Акадэміі мастацтваў СССР (вул. Крапоткіна, 21).

Вялікай і каштоўнай дапамогай камітэту пры прысуджэнні Ленінскіх прэмій 1961 года з'явіцца своечасовае актыўнае абмеркаванне прадстаўленых работ органамі савецкага друку і шырокай грамадскасцю. Камітэт будзе ўдзячны творчым і грамадскім арганізацыям, установам культуры і ўсім працоўным, калі яны прымуць удзел у абмеркаванні кандыдатур, вылучаных на атрыманне Ленінскіх прэмій, і выкажуць свае водгукі, прапановы і заўвагі на старонках друку або ў пісьмах у адрас камітэта (Масква К-9, Праезд Мастацкага тэатра, дом 3-а) да 5 красавіка г. г.

## МАСТАЦТВА БРАТНЯГА НАРОДА

У Мінску ў Саюзе мастакоў БССР адкрыта выстаўка сучаснага румынскага выяўленчага мастацтва (рэпрадукцыі), прысланая Румынскім таварыствам сяброўскіх сувязей з СССР.

На выстаўцы прадстаўлены такія работы, як «Вочная стаўка» Мімі Шарага, «Адпачынак у полі» Карнеліу Баба, «Ул. І. Ленін» Міхая Вагнера, «Мы не забудзем» Іосіфа Кова і інш. Усяго экспануецца каля ста рэпрадукцый твораў жывапісу, графікі, скульптуры, плаката.

Выстаўка будзе экспанавацца таксама ў абласных цэнтрах Беларусі.

НАСУСТРАЧ ДНЮ САВЕЦКАЙ АРМІІ І ВАЕННА-МАРСКОГА ФЛОТУ

На здымку: выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі Н-скай часці БВА Віктар **Зімнюкоў**.

Фота **В. Лупейкі**. Фотахроніка БЕЛТА.

Якаў ХЕЛЕМСКІ

## Вершы пра Беларусь

* * *

Беларусь!
Мы дайшлі
Да цябе ў сорак трэцім...
Зноў згадаў я палі,
Дождж на золку і вецер

Дым барвовы ішоў
Ад Закружжа і Рудні.
Горкі попел двароў
І заглухлыя студні.

Папялішчам ляглі
Тарфяныя балоты.
Жоўты ліст на зямлі,
Быццам след пазалоты.

Але глянеш здалёк:
Там, дзе вёска сірочая,
Мірны ўецца дымок
Ля дарожнай абочыны.

Пахне хатай ізноў —
Першы пах гаспадарскі!
Маці кліча сыноў.
Лес, бывай, партызанскі!

Домік спален да тла...
Толькі комін над печчу
Зноў чакае цяпла
І турбот чалавечых.

Ні кала, ні двара,
Ні паркана, вядома!
Ды нясе дзетвара
Поўны мех буралому.

Ля развілкі дарог
Печ жывая ўздыхае,
Мірны ўецца дымок —
Дым пажараў змяняе.

Што там холад вятроў?
Печка ёсць для пачатку!
Напякла праснакоў
Дзецям
маці-салдатка.

Дождж калючы над ёй.
У куродыме — неба.
Ды плыве над зямлёй
Водар хатняга хлеба.

Мы нясём на плячах
Бранябойкі і міны.
Грэе мілы ачаг
Нас, праходзячых міма.

І ля печы ўначы
Цёпла, быццам у доме.
Месяць гразь цегачы
Па дарозе на Гомель.

Цяжка віліс ідзе
І буксуюць падводы.
Сустракае свой дзень
Маці з хлебам свабоды.

...Колькі ўходзін прайшло,
Колькі ранкаў сустрэта!
Але тое цяпло
Грэе сэрца дагэтуль.

### БЕЛАРУСКІЯ РЭКІ

Беларускія рэкі
Гучаць, быццам песні жалейкі.
Заструменіць Вілля —
Адгукнецца цурчанне Вілейкі.

Каланады стваloў
І над Пцічча ўстаюць, і над Случчу.
Назвы мілыя рэк —
Рэха рэчышчаў сініх, пявучых.

Друць сябруе з вярбой.
А вясною ўваходзяць бярозы
Аж па грудзі ў ваду
І любуюцца бурнай Бярозай.

Сож пяе ў лазняку,
Разліваецца, плешчацца Прыпяць.
Гэтай свежасці ўсёй
Нават ліпень не здолее выпіць.

Падгалоскі звіняць
Безназоўных рачулак вясновых
І пранізваюць свет
Беларускаю шчыраю мовай.

За травою густою
Блішчаць рукавы і прытокі —
Нібы птушкі, ляпечуць,
Пятляюць, як стужкі, у змроку.

Белавежская пушча
І гай несціханы, зялёны
Адбіваюцца ў люстры
Спакойных палескіх затонаў.

За ракою рака —
Прыслухаюцца родныя сёстры,
Як радок да радка —
У паэме сардэчнай і простай.

Пераклад з рускай мовы
Эдзі АГНЯЦВЕТ.

## Паказ фільмаў аб Савецкай Арміі

У рэспубліцы пачаўся шырокі паказ кінафільмаў аб Савецкай Арміі і Ваенна-Марскім Флоце.

Гледачы прагледзяць кінакарціны мінулых год — «Два байцы», «Звязда», «Дні і ночы», «Бессмяротны гарнізон», «Радавы Аляксандр Матросаў», «Дарагі мой чалавек», «Ляцяць жураўлі», «Машанька», «Камандзір карабля», «За тых, хто ў моры».

Будуць паказаны новыя мастацкія фільмы «Аперацыя «Кобра» і «Крэпасць на колах». Аб жыцці маладых воінаў-дэсантнікаў расказвае новая карціна «Скачок на золку», створаная рэжысёрам І. Лукінскім на Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага.

Каляровы фільм «Марскі паляўнічы», пастаўлены па аднайменнай аповесці Н. Чукоўскага, прысвечаны гераічнаму подзвігу ў дні вайны невялікай групы савецкіх маракоў і дзяўчынкі-піянеркі.

**Н. КУЗЬМІЦКАЯ.**

## АБ ТЫМ, ШТО ХВАЛЮЕ

...У той дзень, калі прыйшла газета «Правда» з заклікам аб напісанні нарысаў пра герояў нашых дзён, я перачытваў кнігу, якая, здавалася б, не мае ніякага дачынення да гэтага закліку, — «Валакаламская шаша» Аляксандра Бека. Гэтая кніга мае зайздросную творчую біяграфію. Напісаная больш 15 гадоў назад, яна вытрымала самае вялікае выпрабаванне — выпрабаванне часу. Кніга была шмат разоў перавыдадзена ў нашай краіне і за мяжой; і вось зусім нядаўна яна выйшла ў «Бібліятэцы савецкай прозы», дзе, як вядома, выдаюцца лепшыя творы мастацкай літаратуры. Я падкрэсліваю — мастацкай літаратуры, бо «Валакаламская шаша» ў многіх адносінах аповесць дакументальная.

Кніга цікава пачынаецца. Вось эпіграф да яе: «Если человеку выпадает случай наблюдать чрезвычайное... — все это видевший должен поведать бумаге. А если он не обучен искусству нанизывать концом тростинки слова повести, то ему следует рассказать свои воспоминания опытному писцу, чтобы тот начертал сказанное на прочных листах в назидание внукам и правнукам». І як бы працягам эпіграфа з'яўляецца першы раздзел кнігі — усяго два радкі: «В этой книге я всего лишь добросовестный и прилежный писец. Вот ее история». Аўтар апісвае сваю сустрэчу з камандзірам батальёна славутай панфілаўскай дывізіі капітанам Баўраджан Момыш-Улы, які і расказвае хвалюючую гісторыю абароны Масквы ад фашысцкага нашэсця.

Уся кніга — расказ жывога, рэальнага чалавека пра рэальныя падзеі і рэальных людзей — таго ж генерала Панфілава, байцоў і камандзіраў батальёна, якім камандаваў казах Момыш-Улы. Дарэчы, галоўны герой кнігі — Баўраджан Момыш-Улы і цяпер жыве ў Казахстане, з'яўляецца палкоўнікам у адстаўцы. Як бачым, кніга дакументальная, але яна напісана з такім майстэрствам, з такой страсцю, кожны яе герой настолькі моцна выпісаны, што «Валакаламская шаша» стала ўзорам мастацкай літаратуры, своеасаблівым помнікам героям-панфілаўцам.

І не дзіўна, што праз многія гады Аляксандр Бек зноў вярнуўся да сваёй аповесці, прадоўжыў яе. Я маю на ўвазе «Рэзерв генерала Панфілава» («Новый мир» № 12, 1960). Зноў Момыш-Улы расказвае пра добра знаёмых, дарагіх людзей. І зноў паўстае перад нашымі вачыма абаяльны вобраз жывога, своеасаблівага чалавека — генерала Панфілава. Можна гаварыць пра асобныя хібы гэтага твора, але бясспрэчным застаецца факт — ад аповесці нельга адарвацца, яна чытаецца з вялікай цікавасцю і з вялікім хваляваннем.

І падумаў я — вось такія кнігі трэба пісаць пра герояў нашых дзён. каб нельга было адарвацца ад гэтай кнігі, каб з яе старонак паўставала перад намі цудоўнае аблічча чалавека, з толькі яму ўласцівымі рысамі характару, з яго чароўнай душой і велічнымі справамі. Каб прачытаўшы нарыс ці дакументальную аповесць, скажам, пра Аляксандра Віташкевіча з Мінскага завода аўтаматычных ліній, захацелася б паціснуць руку гэтаму чалавеку і сказаць: «якое ў вас цудоўнае сэрца, які вы прывабны, прыгожы чалавек, як хочацца быць падобным да вас, як хочацца жыць і працаваць так, як вы жывяце і працуеце».

Кніга, якая не выклікае ў чалавечым сэрцы адпаведнага водгуку, адпаведнай аддачы, — кепская кніга. А герой нашых дзён заслужыў, каб аб ім былі напісаны добрыя кнігі.

Нас акружаюць вельмі цікавыя людзі, не менш цікавыя, чым той жа Момыш-Улы. Трэба толькі добра пазнаёміцца з імі, палюбіць іх, пісаць аб іх страсна і добра. Мы можам прыгадаць многа выпадкаў, калі жывы рэальны чалавек станавіўся ўзорам для іншых, дзякуючы ўсхваляванаму слову пісьменніка. Аляксандр Мярэсьеў прыйшоў у вялікую літаратуру з маленькага падвальнага нарыса Барыса Палявога. Сціплая літара, зменённая ў прозвішчы героя, не змяніла цудоўнага аблічча жывога, рэальнага чалавека, які ўвасобіў у сабе лепшыя рысы савецкага воіна і грамадзяніна. «Аповесць пра сапраўднага чалавека» таксама ў многіх адносінах дакументальная, але як мастацкі твор займае пачэснае месца сярод лепшых твораў савецкай літаратуры.

Нарыс, дакументальная аповесць — вельмі ўдзячны жанр літаратуры. Гэтыя творы патрабуюць ад пісьменніка такога ж майстэрства, такога ж творчага напружання, як і аповесць, раман, паэма. Каб напісаць нарыс, дакументальную аповесць, якія пасапраўднаму ўсхвалявалі б чытача, трэба не проста спісаць свайго героя з натуры, але правесці яго праз сваё ўсхваляванае сэрца, шчодра надзяліць яго сваім талентам. Гэта добра ўмеюць рабіць многія беларускія майстры слова. Я не сустракаўся з асобнымі героямі дакументальных твораў Янкі Брыля. Але, здаецца, гэта мае старыя знаёмыя, я бачу іх твар, адчуваю іх душу. І нездарма яго нарысы сталі лепшымі беларускімі нарысамі. Творчая ўдача напаткала і Ігната Дуброўскага. Яго нарыс «Светлы шлях» атрымаў спецыяльную прэмію часопіса «Дружба народов».

Беларуская дакументальная літаратура мае свае пэўныя здабыткі. Калі раней нарыс быў рэдкай з'явай на старонках літаратурных часопісаў і газет, то цяпер многія і многія пісьменнікі плённа працуюць у цяжкім і складаным жанры дакументальнай літаратуры Змяніліся адносіны рэдакцый часопісаў да нарыса. Летась амаль у кожным нумары часопіса «Полымя» друкаваліся нарысы аб нашых сучасніках.

Трэба вітаць добрую ініцыятыву Белдзяржвыдавецтва. У 1959 г. яно выдала бібліятэчку нарысаў пра лепшых людзей нашай калгаснай вёскі, а летась — бібліятэчку нарысаў «Героі сямігодкі». Бясспрэчна, можна і трэба гаварыць аб мастацкіх вартасцях, дакладней — аб мастацкай недасканаласці многіх нашых нарысаў, але тое, што Белдзяржвыдавецтва робіць добрую справу, ахвотна даючы «зялёную вуліцу» дакументальнай літаратуры, не выклікае аніякага сумнення.

Рэгулярна друкуюць нарысы часопісы «Беларусь», «Маладосць», «Неман». Нарыс знайшоў трывалае месца на старонках газет, ён часта гучыць у эфіры. Усё большае развіццё набывае такі аператыўны і ўдзячны жанр літаратуры, як дакументальная аповесць. У гэтым жанры плённа працуюць і сталы майстар слова Макар Паслядовіч, і журналіст Іван Новікаў, які апублікаваў летась у часопісах «Маладосць» і «Полымя» дзве цікавыя дакументальныя аповесці — пра Веру Харужую і герояў мінскага падполля. Хочацца верыць, што неўзабаве з'явяцца і дакументальныя аповесці пра герояў сямігодкі, бо многія пісьменнікі настойліва збіраюць матэрыял аб нашым сучасніку.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# АБ ТЫМ, ШТО ХВАЛЮЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Карацей кажучы, у дні ўсенароднага ўздыму, выкліканага падрыхтоўкай да XXII з'езду КПСС, адчуваецца ажыўленне на пачэсным фронце дакументальнай літаратуры. Вось чаму асабліва дзіўным і крыўдным здаецца той факт, што нашы крытыкі з нейкай абыякавасцю ставяцца да вялікай і нялёгкай працы нарысістаў. На старонках газет і часопісаў мы амаль не сустракаем грунтоўных артыкулаў аб нарысе. Давайце, напрыклад, перагартаем камплект часопіса «Полымя» за мінулы год. На яго старонках сустрэнеш многа нарысаў і... ніводнага крытычнага артыкула аб нарысе. Нават у раздзеле «Кароткія рэцэнзіі» не знайшлося месца для «кароткай размовы» аб кнігах нарысаў. Пашанцавала толькі двум аўтарам-журналістам: В. Данілевічу і П. Тормасаву. Але хіба прынясе карысць аўтарам першых кніжак скупая, таропкая гаворка аб змесце іх нарысаў. Хто-хто, а самі аўтары добра ведаюць, аб чым яны напісалі. Ад крытыкаў яны чакаюць добразычлівых парад, сумленнага і шчырага адказу на адно і тое ж хвалюючае пытанне — як напісаны той ці іншы нарыс. Але адказу не атрымалі. Відаць, не так лёгка ў маленечкай анатацыйнай заметцы прасачыць мастацкія вартасці нарыса. Крыўдна, што раздзел крытыкі, якому ў кожным нумары часопіса адводзіцца многа месца, за год не змясціў ніводнага артыкула аб нарысе.

А між тым ёсць вострая неабходнасць у грунтоўнай размове пра мастацкія вартасці дакументальнай літаратуры, бо недахопамі многіх нашых нарысаў з'яўляюцца ілюстрацыйнасць, бяскрыласць, сухасць, газетчына, у горшым разуменні гэтага слова. Пра гэта даволі пераканальна і ўсхвалявана гаварылі беларускія пісьменнікі на адкрытым партыйным сходзе, прысвечаным нарысу. Яны выказалі слушныя папрокі ў адрас крытыкаў. Пасля таго сходу прайшло нямала часу, але крытыкі па-ранейшаму маўчаць, па-ранейшаму не заўважаюць зрухаў, якія адбываюцца ў беларускай дакументальнай літаратуры. Нас радуе колькасны рост нарысаў і ў той жа час непакоіць, хвалюе нізкі мастацкі ўзровень многіх з іх. Чытаеш у газеце ці часопісе звычайны артыкул — даволі сухі, бясстрасны. А падаецца ён пад рубрыкай — «нарыс». Чаму? Ды толькі таму, што гэты артыкул разбіты дыялагам — таксама сухім, бясстрасным, або даецца ў пачатку артыкула традыцыйная замалёўка прыроды: «Днее. Таварыш Н. расплюшчыў вочы, ветліва ўсміхнуўся першым промням сонца». Ну, і сонца, бясспрэчна, таксама ветліва ўсміхнулася таварышу Н. Крыўдна, калі пад пяром нарысістаў мастацкі расказ пра чалавека ператвараецца ў звычайную белетрызаваную інструкцыю аб прымяненні перадавых метадаў працы. Брашура аб перадавым метадзе працы, аб барацьбе за высокую ўраджайнасць, за павышэнне прадукцыйнасці грамадскай жывёлагадоўлі — справа вельмі неабходная і вельмі карысная. Але для выдання гэтых брашур існуюць спецыяльныя рэдакцыі ў тым жа Белдзяржвыдавецтве, і ніхто яшчэ з аўтараў гэтых брашур не прэтэндаваў, каб іх выдавала рэдакцыя мастацкай літаратуры. Гэта кожны добра разумее, і можна было б не спыняцца на прапісных, як кажуць, ісцінах, каб не было ў нас нарысаў, вельмі блізкіх да гэтых брашур.

Ёсць у нас нарысы, дзе многа месца ўдзяляецца эканамічным праблемам і зусім мала — духоўнаму абліччу, характару чалавека. Карацей кажучы, за рознымі эканамічнымі праблемамі губляецца своеасаблівы характар чалавека. І зноў добра вядомая ісціна: толькі тады, калі важныя эканамічныя праблемы спалучаюцца з добрым паказам чалавека, які вырашае гэтыя праблемы, пісьменніка чакае сапраўды творчая ўдача.

Тут варта прыгадаць пісьменніцкую практыку Ігната Дуброўскага. Ён спалучае зайздросныя якасці: Ігнат Дуброўскі і кандыдат сельскагаспадарчых навук і пісьменнік. Гэта станоўча адбіваецца на яго творчасці. У лепшых сваіх творах Ігнат Дуброўскі радуе нас не толькі дасканалым веданнем матэрыялу, але і ўменнем побач з важнай эканамічнай праблемай намаляваць цікавы чалавечы характар. Прыкметнай з'явай у дакументальнай літаратуры мінулага года з'явіўся яго нарыс «Над Сожам». Наша крытыка дала ўжо станоўчую ацэнку гэтай грунтоўнай рабоце нарысіста, і я не збіраюся аспрэчваць гэтай ацэнкі, хоць можна і папракнуць асобных крытыкаў, што яны мала аддалі ўвагі аналізу мастацкіх вартасцей нарыса. Хочацца толькі як чытачу і прыхільніку дакументальнай літаратуры зрабіць некалькі прыватных заўваг, выказаць некалькі пажаданняў.

Свой нарыс Ігнат Дуброўскі прысвяціў вельмі цікаваму чалавеку — Паліне Нікандраўне Кавалёвай, — старшыні калгаса «За Радзіму» Гомельскага раёна. Гэта той з герояў нашых дзён, пісаць пра якіх і заклікала нас вуснамі «Праўды» партыя. Ігнат Дуброўскі падрабязна, з веданнем справы апісвае каштоўныя мерапрыемствы, ажыццёўленыя ў калгасе. Больш таго, як эканаміст, як добры знаўца сельскай гаспадаркі, ён падказвае для вырашэння шэраг важных праблем. Прачытаўшы такі нарыс, кожны старшыня калгаса знойдзе нямала карыснага для пераймання, бо Кавалёва — той гаспадар, у якога ёсць чаму павучыцца. Пісьменнік даволі глыбока паказаў гаспадарчую дзейнасць Паліны Нікандраўны. Шкада толькі, што ён не выкарыстаў багаты жыццёвы матэрыял для больш поўнага раскрыцця душэўнага аблічча чалавека. Паліна Нікандраўна перажыла асабістую сямейную трагедыю, але выйшла пераможцай з барацьбы, духоўна яшчэ больш багатай. Муж, былы ўдзельнік грамадзянскай вайны, не мог мірыцца з тым, што жонка, як кажуць, узяла верх над ім. Дайшло ледзьве не да разводу. І толькі душэўная тактоўнасць жанчыны, яе розум захавалі сям'ю. Вось чаму, паміраючы ў шпіталі, цяжка паранены муж Паліны Нікандраўны з такой цеплынёй успамінае жонку. Гэтая глыбока псіхалагічная лінія намечана ў нарысе, але чамусьці не раскрыта. Пісьменнік скупым мазком дае эпізод з сямейнай драмы Паліны Нікандраўны і адразу абрывае яго. Спачатку мне здавалася, што гэта, як кажуць, сюжэтны ход, аўтар інтрыгуе чытача, не хоча адразу раскрываць тое, што адбылося ў сям'і Кавалёвай. Але прачытаеш увесь нарыс і з крыўдай убачыш, што гэта не сюжэтны ход. Аўтар проста не палічыў патрэбным глыбока раскрыць асабістае жыццё Паліны Нікандраўны, багатае душэўнае аблічча гераіні. Чаму? Кажуць, калі пішаш пра жывога, рэальнага чалавека, трэба быць вельмі тактоўным, каб не пакрыўдзіць яго, не разварэдзіць балючага. Усё гэта правільна. Аднак барацьба Паліны Нікандраўны за сям'ю — не проста асабістая справа, не тая прыватная дробязь, якой падчас занадта многа месца ўдзяляем мы ў сваіх творах. Барацьба яе мае вялікае грамадскае гучанне — яна змагалася з любым чалавекам, які адстаў, не зразумеў новага подыху жыцця. Тут цесна перапляталося асабістае з грамадскім, і раскрыць гэтую барацьбу — удзячная задача пісьменніка-псіхолага. Тым больш, шта гэта названа ў нарысе, але не раскрыта. Вось і хацелася б пажадаць пісьменніку пры выданні нарыса асобнай кнігай больш поўна раскрыць душэўнае харастВо Паліны Нікандраўны. Хацелася б, каб аўтар больш увагі аддаў абмалёўцы характару і некаторых іншых герояў нарыса — у прыватнасці, таго ж сакратара райкома партыі тав. Палавінкі.

Некалькі слоў пра нарысы, якія друкуюцца ў газетах. Іх вельмі многа, але не многія з гэтых нарысаў па-сапраўднаму хвалююць, даходзяць да сэрца. Відаць таму, што шмат павярхоўнага, бясстраснага ў гэтых нарысах. І хоць, як правіла, большасць газетных нарысаў прысвечаны актуальным, важным пытанням, яны не заўсёды дасягаюць мэты. І тут зноў — размова аб якасці газетных нарысаў, якую чамусьці ўсё яшчэ не распачалі нашы крытыкі. А пачаць такую размову трэба. Усе мы добра ведаем аб новым, прагрэсіўным, што нясе з сабою рух брыгад камуністычнай працы. Але чытаеш часам у той ці іншай газеце нарыс і адчуваеш павярхоўнасць, штамп у падачы важнага матэрыялу. Возьмем, напрыклад, падшыўку газеты «Чырвоная змена» за мінулы год. Тут заведзена спецыяльная рубрыка «З жыцця брыгад камуністычнай працы», дзе змяшчаюцца нарысы, допісы аб новым пачынанні. Гэта карысная ініцыятыва газеты. І ўсё ж многія матэрыялы сухія, павярхоўныя. Вось вялікі нарыс «На поўнае дыханне». Я з цікавасцю пачаў чытаць гэты матэрыял, бо ён прысвечаны людзям Гродзенскага тонкасуконнага камбіната, якіх я добра ведаю. Мяне цікавіла, як жа выраслі гэтыя людзі за апошнія гады? Але прачытаў я нарыс і расчараваўся. Людзі, з якімі я пазнаёміўся ўпершыню амаль дзесяць год назад, былі куды больш цікавымі за тых, аб якіх я прачытаў зараз. Хоць у сапраўднасці яны значна выраслі за гэтыя гады, у чым я пераканаўся ў час нядаўняй паездкі на Гродзенскі тонкасуконны камбінат. Значыцца, проста аўтар допісаў не здолеў па-сапраўднаму расказаць нам аб гэтых выдатных людзях. Многа тут агульных слоў, вонкавай патэтыкі і мала сапраўднай літаратуры, журналістыкі з глыбокім, усхваляваным паказам чалавека, яго душы, псіхалогіі. Аўтар піша: «Чалавек камуністычнага грамадства, як сказаць аб ім, якія прыдумаць эпітэты, параўнанні? Толькі такія, што ўбяруць у сябе ўсё тое лепшае, чаго дасягнулі людзі на працягу стагоддзяў!» Прачытаеш такое і думаеш: зараз пачнецца хвалюючы расказ пра цудоўных людзей, якія ўвабралі ў сябе «ўсё тое лепшае, чаго дасягнулі людзі на працягу стагоддзяў». Але... няма гэтага расказа. Наадварот, пад пяром нарысіста яны згубілі тыя цудоўныя рысы, якія сапраўды маюць. Марыя Чэкаль, адна з гераінь нарыса, сапраўды вельмі цікавы чалавек. У жыцці маладой дзяўчыны адбыліся такія хвалюючыя падзеі, аб якіх, здаецца, паэму напісаць можна было б. Вось як апісаны гэтыя падзеі: «Напярэдадні святкавання 50-годдзя Міжнароднага жаночага дня Марыю Чэкаль выклікалі ў Маскву. Тут дзяўчына даведалася аб прысуджэнні ёй звання Героя Сацыялістычнай Працы... У сэрца прыйшла вясна. Вясна радасці, вясна вялікіх сонечных здзяйсненняў». У жыцці Марыі Чэкаль, як бачым, адбыліся незабыўныя падзеі. І як суха, нецікава, інфармацыйна расказаў нам пра гэта нарысіст. Ён абмежаваўся сухім пералікам падзей і патэтычнай канцоўкай аб вясне, якая з'яўляецца ні чым іншым, як звычайнай літаратуршчынай. Лягчэй за ўсё напісаць — «у сэрца прыйшла вясна». Цяжэй паказаць гэта, каб чытач і без атэстацыі адчуў, што сапраўды ў сэрца прыйшла вясна.

Чытаем другі вялікі матэрыял «З жыцця брыгад камуністычнай працы» — «Дружбай моцныя». І зноў сухі пералік падзей з налётам вонкавай патэтыкі. У аўтара — багаты матэрыял. Адчуваецца, што брыгада, аб якой ён хоча расказаць чытачам, сапраўды цікавая. Але вось як пра гэта цікавае расказваецца: «Працавалі члены брыгады з намерам узяць першынства ў цэху, паказаць прыклад. Але так проста гэта не далося. Многаму прыйшлося павучыцца спачатку — і правільнай арганізацыі рабочага месца, і перадавой тэхналогіі, і прыёмам заточкі інструмента, і шмат чаму іншаму. Павучыліся — і пачалі працаваць яшчэ лепш. У змену давалі па 1 200 веласіпедных рам пры норме 900». Як проста ўсё! І як усё гэта — казённа, штампавана, па-канцылярску суха напісана. Для таго, каб так напісаць, не трэба хадзіць нават на завод. Пазваніў па тэлефоне, запісаў дзве — тры лічбы, некалькі фактаў: навучыліся, маўляў, правільнай арганізацыі працы і г. д.

Кідаецца ў вочы і другая хіба многіх нарысаў — пагоня аўтараў за вонкавай прыгажосцю, патэтыкай, літаратуршчынай. Тут і дзяжурнае «сэрца», якое абавязкова «гулка білася», і гучныя з прэтэнзіямі назвы — «Залатое сонца шчасця»!

Нашы газеты робяць вялікую і добрую справу, яны выхоўваюць вялікі атрад маладых нарысістаў. І хіба не пачэсны абавязак крытыкі — дапамагчы маладым нарысістам сваімі парадамі?

І апошняе, на чым хочацца спыніцца. Мы часта і слушна гаворым пра недахопы ў прапагандзе беларускай літаратуры. Што датычыцца кніг нарысаў, то яны зусім не прапагандуюцца, мёртвым грузам ляжаць на паліцах кнігарань і ў непралазных джунглях кнігасховішчаў. Было б недарэчна і несправядліва ўсю віну звальваць на кнігагандлёвых работнікаў. Паклаўшы руку на сэрца, трэба прызнаць, што самі мы, аўтары нарысаў, не прымаем захадаў, каб гэтыя кнігі як мага хутчэй дайшлі да чытача. Бясспрэчна, нашым нарысістам трэба пісаць лепш, больш страсна, цікавей. Аднак, я не ведаю ніводнага выпадку, каб кніга нарысаў абмяркоўвалася б тымі чытачамі, каму яна прысвечана, я не ведаю ніводнага выпадку, каб разам з нашымі паэтамі ці раманістамі выехалі ў вобласць для распаўсюджвання сваіх кніг і нарысісты. У гэтым, дарэчы, сказваецца нейкая недаацэнка нарыса як мастацкага твора. Нас не павінна бянтэжыць тая акалічнасць, што кнігагандлёвыя работнікі не надта запрашаюць нарысістаў. Гэта зразумела — кніга нарысаў выходзіць невялічкім тыражом, яна займае мізэрнае месца ў фінансавым бюджэце кнігагандлю. Таму кнігагандлёвых работнікаў не надта хвалюе, разыйдзецца яна ці не разыйдзецца. Але кніга нарысаў займае важнае месца ў ідэалагічным бюджэце, асабліва сёння, калі нам трэба ўзняць мастацкі ўзровень і папулярнасць гэтага пачэснага жанра літаратуры. Таму трэба аддаць неабходную ўвагу прапагандзе нарысаў.

... Калі ўжо быў напісаны гэты артыкул, я дазнаўся аб каштоўнай ініцыятыве Новабарысаўскай бібліятэкі. Тут праведзена цікавая канферэнцыя чытачоў аб беларускім нарысе з удзелам аўтараў нарысаў — пісьменнікаў Аляксея Кулакоўскага, Міколы Ткачова, Антона Бялевіча. Гэта — першая ў рэспубліцы канферэнцыя аб нарысе, але будзем спадзявацца не апошняя. Сам факт правядзення такой канферэнцыі сведчыць аб цікавасці чытачоў да нарыса. Хочацца верыць, што прыклад Новабарысаўскай бібліятэкі будзе пераняты і іншымі бібліятэкамі рэспублікі.

**Ул. ДАДЗІЁМАЎ.**

## Рукапісны альманах

Два гады назад пры ружанскай раённай газеце «Запаветы Леніна» было створана літаратурнае аб'яднанне, у склад якога ўвайшло каля трыццаці пачынаючых паэтаў і празаікаў.

Тады ж члены літаб'яднання выпусцілі першы нумар рукапіснага альманаха «Маладыя парасткі». У яго ўвайшлі лепшыя творы, якія друкаваліся раней у газеце і абмяркоўваліся на пасяджэннях літаб'яднання.

Зараз перад намі другая кніга альманаха — вынік плённай працы літаратурнай моладзі Ружаншчыны за мінулы год.

Альманах адкрываецца вершамі Пятра Суцько «Калі праходзіш ля помніка Леніну», «Будаўніку», «Майскі дождж». У нумары змешчаны таксама вершы шафёра Мікалая Осіпава, работніцы райспажыўсаюза Соф'і Ляўковіч, вучаніцы Валянціны Верабей.

Малады паэт Яраслаў Пархута змясціў у альманаху сваю новую казку-паэму для дзяцей «Чаму зязюля кукуе».

Вядома, не ўсё, што змешчана ў альманаху, напісана аднолькава ўдала і на высокім мастацкім узроўні.

Не ўсе аўтары яшчэ добра валодаюць словам. Адсюль — празаізм асобных радкоў у вершах Івана Леановіча, Уладзіміра Яфімчыка.

Акрамя паэзіі, у альманаху ёсць раздзелы нарысаў пад агульнай рубрыкай «Героі нашых дзён», крытыкі і бібліяграфіі.

Цёпла, задушэўна расказаў Пятро Суцько аб даярцы з калгаса «Рассвет» Веры Заяц у нарысе «Неспакойнае сэрца».

Другая кніга альманаха «Маладыя парасткі» — яскравае сведчанне творчага росту літаратараў Ружаншчыны.

**М. РАДЗЮК.**
**Ф. КАРДАШ.**



У Гродна пачала выходзіць штомесячная ілюстраваная газета «Справы і людзі нашага горада». У першым нумары гэтай газеты расказваецца аб працоўных поспехах калектываў прамысловых прадпрыемстваў, аб культурным жыцці горада, змешчаны партрэты перадавікоў вытворчасці, фотаздымкі, якія адлюстроўваюць новабудоўлі абласнога цэнтра. Газета выдаецца ў пяці экземплярах.

**На здымку:** газета «Справы і людзі нашага горада» на Савецкай вуліцы.

Фота **А. Перахода.**
Фотахроніка БЕЛТА.

## *Выстаўка плаката*

У фае віцебскага кінатэатра «Спартак» экспануюцца плакаты студэнтаў мастацка-графічнага факультэта педінстытута.

Перад студэнтамі стаяла задача — простымі дэкаратыўнымі сродкамі стварыць выразныя і змястоўныя плакаты.

Пачынаючыя мастакі падыйшлі да распрацоўкі тэм па-сапраўднаму прафесіянальна.

Значна дапамаглі маладым мастакам загадчык кафедры факультэта мастак В. Дзежыц і вядучы выкладчык курса мастак-графік Г. Клікушын. Яны ставяць перад студэнтамі пэўныя эстэтычныя патрабаванні, перадаюць ім свой багаты практычны вопыт.

Дзейснасць плаката ў значнай меры залежыць ад таго, наколькі ўдала ён вырашаны ў дэкаратыўных адносінах. Але галоўнае ў плакаце — не манера мастацкага пісьма, а яго думка. Асабліва важна, каб малюнак і колер выяўлялі ідэю, змест плаката.

Проста і свежа, з добрым густам выкананы плакат «Слава Ваенна-Марскому Флоту!» студэнт Шашко. Плакат скампанаваны з глыбокім разуменнем тэмы. У ім малюнак, колер і тэкст арганічна з'яднаны.

Прыцягвае да сябе ўвагу і плакат студэнткі Аліпавай «Рэлігія — дурман для народа». Кампазіцыя яго пераканальная, эмацыянальна насычаная. Ён вырашаны ў трох колерах. Магчыма, аўтару варта было падумаць толькі пра больш выразны і характэрны надпіс.

Гэтыя плакаты можна рэкамендаваць выдавецтвам для друку.

Умела выкананы працы студэнтаў «Слава савецкаму народу!» Куроўскага, «Заваюем космас!» Ніканаронкава, «Не!» (атамнай бомбе) Марочкіна, «Слава Вялікаму Кастрычніку!» Старасценкі, «Мір народам!» Цімановіча, «Слава савецкаму спорту!» Дольскага, «Слава савецкаму народу-стваральніку!» Кахановіча, «Мастацтва належыць народу» Шчарбіцкага і інш.

Аднак не ўсе плакаты ў аднолькавай меры трапныя па танальнасці і лаканічныя па колеру. Асобныя з іх — пасіўныя, сумныя і аднастайныя. У іх прыкметны штамп і пераймание шырока вядомых савецкіх плакатыстаў. Стыль і характар шрыфту супярэчаць змесце, не з'яднаны з кампазіцыйнай формай. Яны стракацяць, успрымаюцца дробна, не выказваюць галоўнай думкі, тады як надпіс у плакаце павінен лёгка чытацца, павінен быць напісан выразна і ясна, адразу кідацца ў вочы.

Так, напрыклад, у выдатна задуманым плакаце Гарана «Вывучайце прыроду роднага краю!» няўдалы шрыфт. Слабы і бездапаможны, ён не ўкампанаваны ў жывую каляровую тканіну плаката і, па сутнасці, разбурае яе цэласнасць.

Слаба вырашан па кампазіцыі плакат Махлова «Слава савецкаму спорту!» У ім няма новай, ярка выказанай думкі, не знойдзена патрэбная форма. Ён нагадвае прымітыўную спартыўную эмблему і, безумоўна, не можа ўздзейнічаць на гледача. Дрэнна і тое, што ніводзін са студэнтаў не вырашае ў плакатах тэмы сельскай гаспадаркі. Гэта сур'ёзнае ўпушчэнне выкладчыкаў.

Але ўвогуле выстаўка сведчыць аб вялікім жаданні маладых плакатыстаў смела ўтаргацца ў нашу шматгранную сацыялістычную рэчаіснасць, прыкмячаць у ёй галоўнае і сілай мастацтва служыць свайму народу.

**Ю. ДОКТАРАЎ.**

**На здымку:** У фае кінатэатра «Спартак», дзе адкрыта выстаўка плаката — работы студэнтаў мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута.

Фота **М. Рубінштэйна.**

## Для агітатараў і прапагандыстаў

Для шырокага кола чытачоў, агітатараў і прапагандыстаў рэспубліканскае Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў выпускае брашуры — «Жывыя рысы Ільіча» А. Налівайкі, «Кузьма Чорны» М. Луферава, «Змітрок Бядуля» А. Семяновіча і інш.

Выдадзены наступныя матэрыялы ў дапамогу лектарам: «Культурныя паводзіны маладога савецкага чалавека» С. Лапцёнка, «Сорак год Беларускага тэатра імя Я. Купалы» Ул. Няфёда.

Фундаментальная бібліятэка Акадэміі навук БССР імя Бялінскага вядзе шырокі кнігаабмен з навуковымі ўстановамі Кітайскай Народнай Рэспублікі. У мінулым годзе з Кітая атрымана звыш 700 навуковых выданняў, у тым ліку многа на рускай мове. Літаратура рэгулярна паступае з Кітайскай Акадэміі навук, з Шанхайскага ўніверсітэта Фу-Дань, з Нацыянальнай бібліятэкі і іншых устаноў.

**На здымку:** галоўны бібліятэкар аддзела замежнай літаратуры **С. А. Любіна** правярае адрасы перад адпраўкай кніг у Кітай.

Фота **І. Змітровіча.**
Фотахроніка БЕЛТА.

## Пра літаратуразнаўчую тэрміналогію

*З маскоўскай нарады філолагаў па праблемах славяназнаўства і пытаннях літаратуразнаўчай тэрміналогіі*

Кожная галіна навукі мае свой прадмет даследавання і сваю спецыфічную тэрміналогію.

Немагчыма ўявіць сабе, каб вучоны не ўжываў у сваіх даследаваннях уласцівай яго галіне ведаў навуковай тэрміналогіі. А між тым у літаратуразнаўстве, літаратурнай крытыцы гэта вельмі часта сустракаецца. Чалавек піша кнігу пра паэзію і не гаворыць пра памеры, рытмы, рыфмы, строфіку, фоніку. Разглядае крытык драматычны твор і не называе, якія мастацкія прыёмы ўжывае пісьменнік, каб зрабіць дзеянне напружаным, дынамічным. А бывае і так, што літаратуразнаўца хваліць ці ганіць мову пісьменніка, а гаворку пра сродкі маляўнічасці мастацкай мовы абыходзіць.

Вядома, што ўжо ў сярэдняй школе вучні засвойваюць шмат навуковых тэрмінаў. А вось літаратары-студэнты нават на дзяржаўных экзаменах з вялікай цяжкасцю прыпамінаюць назвы састаўных элементаў эпічных твораў і не заўсёды адрозніваюць экспазіцыю ад постпазіцыі, з аднаго боку, і пралог ад эпілога, з другога. І вінаваты ў гэтым не столькі выкладчыкі, колькі аўтары падручнікаў, артыкулаў і кніг па мастацкай літаратуры.

Гаворачы пра разнастайныя ў жанравых адносінах мастацкія творы, нашы крытыкі аналізуюць пераважна ідэі, тэмы і вобразы. Не выходзяць за рамкі гэтай «святой тройцы» і складальнікі метадычных дапаможнікаў для студэнтаў-завочнікаў. У выніку наша беларуская мастацкая літаратура прадстаўляецца часам у форме нейкага іканастаса з вобразаў-абразоў. А ўсё майстэрства архітэктонікі, апісання, апавядання, маналогаў, дыялогаў, сюжэтных ходаў і фабульных канструкцый застаецца па-за ўвагай даследчыкаў. Чытач не прывучаецца да ўсебаковага ідэйна-мастацкага разгляду літаратурных твораў.

Наколькі патрэбна зараз звярнуць увагу на даследаванне спецыфічных асаблівасцей мастацкай літаратуры, можна меркаваць па «Праблематыцы і тэматыцы V міжнароднага з'езду славістаў», які мае адбыцца ў 1963 г. у Сафіі. Побач з гісторыка-палітычнымі тэмамі ў план работы гэтага з'езду ўключана шмат спецыяльных літаратурна-тэарэтычных пытанняў. Я пералічу толькі тыя, аб якіх беларускія філолагі абавязкова павінны выказацца ў форме артыкулаў, кніг і нават дысертацый. Вось гэтыя тэмы: «Асноўныя прынцыпы вывучэння мовы мастацкай літаратуры», «Агульнанародная мова, мова мастацкай літаратуры і стыль пісьменніка», «Праблемы паэтыкі рэалізму ў славянскіх літаратурах», «Анамастыка як сродак мастацкай выразнасці», «Пытанні паэтыкі і стылістыкі фальклорных жанраў (казка, лірычная песня і інш.)», «Пытанні кампазіцыі ў славянскіх літаратурах і народнай творчасці», «Паходжанне славянскага вершаскладання», «Узаемаадносіны паміж народным і літаратурным вершам у гісторыі славянскіх літаратур», «Суадносіны паміж вершаскладаннем і прасадычнымі асаблівасцямі славянскіх моваў», «Праблема «рытму» і «сэнсу» на матэрыяле славянскіх літаратур», «Гісторыя і параўнальны аналіз рыфм і іншых гукавых сродкаў у славянскіх літаратурах», «Праблема методыкі верша ў славянскіх народаў», «Сучасныя з'явы ў галіне славянскіх вершаваных форм».

Праведзеная ў Маскве 24—27 студзеня г.г. каардынацыйная нарада па актуальных праблемах славяназнаўства вызначыла задачы савецкіх вучоных-славяназнаўцаў, а таксама зацвердзіла спіс спецыяльных ВНУ па каардынацыі іх даследаванняў. Пачэснае месца ў гэтай рабоце адведзена інстытутам АН БССР і Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту імя Ул. І. Леніна. Гэта і абавязвае беларускіх філолагаў адразу ж прыступіць да распрацоўкі названай тэматыкі.

Надзвычай вялікую ролю ў гэтых даследаваннях павінна адыграць навуковая літаратуразнаўчая і фальклорыстычная тэрміналогія. І вось, каб пазбегнуць блытаніны і разнабою ў азначэннях літаратуразнаўчых і фальклорных паняццяў, была створана пры Міжнародным камітэце славістаў спецыяльная Тэрміналагічная камісія.

Вельмі паказальная і павучальная першая нарада гэтай камісіі, якая адбылася ў канцы студзеня бягучага года ў Інстытуце сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага АН СССР. Даклад «Аб задачах і прынцыпах складання навуковага слоўніка асноўных літаратуразнаўчых тэрмінаў» зрабіў старшыня Тэрміналагічнай камісіі член-карэспандэнт АН СССР Д. Благой. На тэму «Да пытання аб навейшай тэрміналогіі ў зарубежным літаратуразнаўстве» выступіў акадэмік В. Вінаградаў. Прафесар Н. Краўцоў паведаміў аб тэрміналагічным слоўніку літаратурных жанраў у Польшчы і параўнаў іх назвы ў іншых славянскіх народаў. Прафесары Г. Паспелаў, Р. Самарын, А. Сакалаў далі азначэнні такіх літаратуразнаўчых тэрмінаў, як «метад», «напрамак», «плынь», «школа» ў літаратуразнаўстве. Член-карэспандэнт АН СССР Л. Цімафееў прысвяціў свой даклад тлумачэнню паняцця літаратурнага вобраза. Аб паняццях «адлюстраванне», «ізабражэнне» і «выражэнне» ў літаратуры гаварыў дацэнт У. Фохт. Аб тэрмінах «характар», «дзеючая асоба», «персанаж», «кампазіцыя», «сюжэт», «фабула», «дзеянне» выказалі меркаванні кандыдаты філалагічных навук С. Бачароў і В. Кожынаў.

На нарадзе ў спрэчках выступілі літаратуразнаўцы Кіева, Кішынёва, Мінска, Саратава, Горкага і іншых гарадоў краіны. Яны падкрэслівалі вялікае практычнае значэнне работы па ўпарадкаванню літаратуразнаўчых тэрмінаў і шырокаму выкарыстанню іх у даследчай і педагагічнай дзейнасці. Сапраўды навуковы аналіз мастацкага твора не можа быць зроблены без адпаведнай навуковай тэрміналогіі.

Нам, беларусам, няма патрэбы ствараць свой асобны літаратуразнаўчы слоўнік. Але нам трэба выдаць дапаможнік па тэорыі літаратуры для настаўнікаў сярэдніх школ. А для гэтага трэба дакладна перакласці на беларускую мову і добра растлумачыць сэнс агульнапрынятых у савецкай навуцы літаратуразнаўчых паняццяў і тэрмінаў, падабраць для іх ілюстрацыі, прыклады з беларускай літаратуры.

Усё гэта адразу выканаць як след немагчыма. Таму, можа, варта завесці пры часопісах «Полымя» і «Беларусь» невялічкія куткі літаратуразнаўчых тэрмінаў з тлумачэннем іх на беларускім матэрыяле. Трэба патрабаваць ад аўтараў падручнікаў па беларускай літаратуры ўсебаковага ідэйна-мастацкага разгляду мастацкіх твораў, правільнага ўжывання навуковай тэрміналогіі.

Той, хто любіць сваю галіну навукі, хто заклапочаны павышэннем мастацкага аналізу твораў, не павінен застацца ў баку ад важнай для нас тэрміналагічнай праблемы.

**І. ГУТАРАЎ.**

# ПАЭЗІЯ ШЫРОКІХ ПРАСТОРАЎ

М. Лужанін на вечары, прысвечаным яго 50-годдзю, гаварыў прамову вершамі, толькі што напісанымі, важкімі, прачулымі. У іх гаварылася аб уласных жыццёвых дарогах, аб нашай паэзіі і яе старэйшынах, што вырасцілі некалькі паэтычных пакаленняў, аб любасці да роднай зямлі...

Сёння гэты твор — «На мачту, слова!» — мы чытаем у двухтомніку выбраных твораў паэта, і ён, пастаўлены ў пачатку першага тома, з'яўляецца як бы своеасаблівым эпіграфам да ўсяе творчасці М. Лужаніна.

Пісаць вучуся кожны дзень наноў,
Пампую словы з рупнасцю адною,
Каб на радок, што на душы ўзышоў,
Мог сябар абаперціся душою.
Каб з верша веялі вятры маіх дарог,
Гарчыла пылам, зіхацела сонцам,
Каб кожны чуў, каб і дзіцёнак мог
Пазнаць, за што стаю, чаго я абаронца.

Паэзія М. Лужаніна развівалася на магістральных шляхах беларускай савецкай літаратуры і ў яе раннюю пару. Тады, у першай палавіне 20-х гадоў, прыйшла ў літаратуру цэлая плеяда паэтаў: К. Крапіва, П. Трус, Ул. Дубоўка, А. Дудар, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка, А. Звонак, Я. Пушча і інш.

Да «маладнякоўскага» пакалення ў нашай паэзіі належыць і М. Лужанін.

Пошукі новай формы, рытмаў, інтанацый, імкненне да маштабнасці, патэтыка, перавага агульнага над індывідуальным, асабістым — характэрныя асаблівасці маладой паэзіі таго часу — па-свойму праламляліся ў кожнага з паэтаў.

Абстрактнасць, рацыяналізм, лазунговасць былі ўласцівы вершам М. Лужаніна 20—30-х гадоў. Нямногія з іх уключыў паэт у гэтае выданне: па два ці тры з кожнага года. Трапілі і вельмі тыповыя па сваёй узнёсласці, касмічнасці:

Паэту да сонца даўно пара дайсці,
Бо на электравышках нашых вякоў
Вырастае вялізманы вобраз радасці
З мільённых шэрагаў будаўнікоў.

Паэты як бы спаборнічалі між сабою ў падборы незвычайна «высокіх» метафар, параўнанняў, гіпербал.

У М. Лужаніна будаўнікі ўзвялі такі дом, што сцены яго «ўпёрліся ў неба плячыма» («Дом»). Аказваецца, што гэта не проста дом, а сімвал усёй пяцігодкі. Будаўнікі — гэта звычайна цэлы калектыў у «магутнай хадзе». Яны будуюць новы свет, ім пакараюцца «далі і мілі ўсе» («Дужасць»). Людзі з малаткамі і кельнямі ведаюць сваю сілу і ролю:

Мы самыя большыя волаты
На вогнішчы людскай гісторыі.

Перыяд пошукаў рэалістычнай канкрэтнасці, свежай вобразнасці, свайго непаўторнага голасу ў М. Лужаніна быў даўжэйшым, чым у іншых паэтаў-равеснікаў. Значнай была даніна часу, маладнякоўскай плыні, газетнаму вершу. Працяглай была вучоба ў самых розных паэтаў: Ясеніна, Маякоўскага і іншых. Слаба адчувалася ў яго ранніх вершах нацыянальная паэтычная традыцыя. Наватарства брала верх над усім, але яно было часта неглыбокае, напышлівае.

Было і станоўчае: энергічны, разнастайны рытм, смелая «хватка», вышэйшая, чым у іншых культура слова, цікавасць да шырокіх грамадскіх тэм.

Ёсць у М. Лужаніна ў ранні перыяд творчасці музычныя напеўныя вершы («Гоманы снежнай белі»), рамантычна афарбаваныя («Сны аб моры»), выразныя па думцы вершы аб значэнні мастацтва («Дваццаць чатыры гадзіны», «Пра нашу прафесію»), аб працоўнай садружнасці рэспублік у пяцігодцы («Рух таварных цягнікоў»). Куды горш было, калі рыфмаваліся лозунгі або пісаліся нататкі вершам пра першамайскую вуліцу. Творы ў двухтомніку размешчаны ў храналагічным парадку, прычым у першым томе — вершы, у другім — паэмы і апавяданні вершам. Такое размяшчэнне ўвогуле можна прыняць. Бяда толькі ў тым, што ў першым томе многія раннія вершы не вельмі лірычныя, а ў другім — не зусім сюжэтныя. Розніца між імі паводле жанра ледзьве ўлаўліваецца.

Лепшыя з сюжэтных вершаў тыя, што прысвечаны роднай вёсцы, дому, і ўвогуле Беларусі. «Смешнавата цяпер пра неба, цікаўнейшая рэч — зямля!», «Адчуваю дыханне зямлі», — заўважае аўтар. І гэта не толькі дэкларацыя. У вершы «Дома» паэтызуецца простае, звычайнае.

У сенцах,
Пасыпаны кменам,
Паліты халоднай вадой
Хлеб са свежага жыта!
Астывае і пахне.
І добрыя матчыны рукі
Кроюць мокрым нажом
Ладны пульхны акраец...

Асобныя паэтычныя знаходкі сустракаюцца і ў цыкле «Галасы гарадоў» — вобраз роднага краю ў гістарычнай перспектыве, мінулае і сучаснае Беларусі («Край мой — моц гартаваных рук, край мой — еднасць вялікіх хваль»). Паэта хвалюе лёс Заходняй Беларусі, «што Савецкаю хоча быць». Запамінаецца верш «Таварыш Вера». Як шчыры, сардэчны сябра звяртаецца паэт да Веры Харужай, што пакутвала тады за кратамі турмы ў панскай Польшчы:

Я самым цёплым, самым добрым,
Што ўзгадавалася ва мне,
З-за крат у свет вяду твой вобраз
Насустрач песні і вясне.

На змену лірычнаму вершу прыходзіць публіцыстычны, агітацыйны, аратарскі, калі паэт выкрывае буржуазную Еўропу, стары свет.

Цыкл «Галасы гарадоў» з яго запевам і канцоўкай ёсць не што іншае, як пошук новай формы паэмы.

Расказаў вам усё, што здолеў,
Многа ведаў, ды мала ўмеў...

І сапраўды тут аб усім: гісторыя і асабістая біяграфія, быт і палітыка, водгук на газетную заметку і мара аб перайначанні прыроды. Побач з паэтычнымі знаходкамі тут яшчэ многа абстрактнага, рытарычнага. Але грунтоўную форму, якая адпавядае зместу, знайшоў паэт у вершы «Рух таварных цягнікоў». За першым — вытворчым — планам тут праглядваецца другі — паказ тэмпу будаўнічых работ, шырокіх прастораў краіны, працоўнай садружнасці яе народаў у пяцігодцы.

Лепшыя вершы перыяду Вялікай Айчыннай вайны абапіраюцца на гэтыя, досыць значныя здабыткі. «Зварот маладосці», напрыклад, — твор шырокага дыхання, які перадае атмасферу часу, роздум і адчуванні чалавека на вайне. Спачатку герой у разбураным Мінску, дзе цяпер цішыня і засцярога, «нават месяц на небе нерухома застыў, нібы ўзбіўся на штык...» Кантрасна, праз успаміны героя падаецца ранейшы вясёлы, ажыўлены, малады Мінск з яго бурным, імклівым жыццём.

Потым поле бою ля сцен Сталінграда, і новы матыў — неўміручасць чалавека, які аддае жыццё за Радзіму.

У іншых творах праўдзіва падаюцца асобныя сцэны пачатку вайны:

Пайшлі, не знаючы спачынку,
Бездапаможныя слядкі
Мае разутае дзяўчынкі,
Мае маленькае дачкі.
. . . . . . . . . . .
Лясы пайшлі услед за намі,
І ўслед нам рэкі паплылі.

Паэт звяртаецца да гераічных рэвалюцыйных традыцый нашага народа («Прысяга»), малюе цяжкія дарогі вайны («Шынель»), піша «Верш на крыві» — аб ахвярах у Трасцянцы і «Патруль» — аб магілёўскім калгасніку, што крочыць па вуліцах Бер-

**Максім Лужанін.** Выбраныя творы ў двух тамах. Мінск. 1960.

# Лісты Ф. Багушэвіча да Э. Ажэшкі

Творчая дружба і шчырыя сяброўскія сувязі звязвалі выдатнага беларускага паэта-дэмакрата Францішка Багушэвіча з вядомай польскай пісьменніцай Элізай Ажэшкай. Пільная ўвага да беларускага селяніна, рэалістычны паказ яго жыцця і побыту, дэмакратычная накіраванасць творчасці—усё гэта яднала аўтара «Дудкі беларускай» з польскай пісьменніцай.

Аднак да апошняга часу наша літаратуразнаўства мела даволі скупыя і абрывістыя звесткі пра дружбу прадстаўнікоў двух братніх славянскіх народаў. З лістоў Э. Ажэшкі да польскага філолага і фалькларыста Яна Карловіча было вядома, што беларускі паэт у студзені 1887 г. і ў лютым 1888 г. наведаў Гродна і быў жаданым госцем славутай пісьменніцы. Ф. Багушэвіч пазнаёміў Э. Ажэшку са сваімі творамі на беларускай і польскай мовах, пра якія аўтар «Нізін», «Дзюрдзяў» і «Хама» пісала: «Прыгожы гэты талент. Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, прынамсі на мой погляд, выдатныя. Трэба было б усімі сіламі заахвоціць яго да працы ў гэтым кірунку» (з ліста да Я. Карловіча ад 22 лютага 1888 г.). Было таксама вядома, што Ф. Багушэвіч у лютым 1892 г. прымаў удзел у юбілейных урачыстасцях у Гродна ў сувязі з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці польскай пісьменніцы і прысвяціў ёй верш «Яснавяльможнай пані Арэшчысе».

Апрача таго, аўтару гэтых радкоў не так даўно ўдалося натрапіць на вельмі цёплае выказванне Э. Ажэшкі пра Ф. Багушэвіча ў сувязі са смерцю беларускага паэта: «Памяць памёршага Францішка Багушэвіча ўшаноўваю глыбока і вестку пра яго смерць прыняла з сардэчнаю слязою. Быў ён адным з высакароднейшых людзей, якія служылі нашай зямлі, а для мяне асабіста адным з вельмі нешматлікіх сяброў. Успаміны пра яго для мяне дарагія і самотныя» («Век» № 164, 1900).

Гэтыя звесткі нядаўна папоўніліся новымі матэрыяламі, якія шырэй раскрываюць сяброўскія ўзаемасувязі Ф. Багушэвіча з польскай пісьменніцай, удакладняюць некаторыя моманты яго біяграфіі і творчасці, знаёмяць з невядомымі творамі аўтара «Дудкі беларускай». Беластоцкая беларуская газета «Ніва» 1 студзеня 1961 г. змясціла цікавы артыкул Эдмунда Янкоўскага «Эліза Пашкевіч і Францішак Багушэвіч». Э. Янкоўскі — складальнік і каментатар новага выдання пісем польскай пісьменніцы — прыводзіць у сваім артыкуле шмат дагэтуль невядомых фактаў, якія датычаць дружбы беларускага паэта з Э. Ажэшкай.

Артыкул, напісаны на аснове матэрыялаў архіва Э. Ажэшкі, які захоўваецца ў Інстытуце літаратурных даследаванняў Польскай Акадэміі навук. Э. Янкоўскі паведамляе, што ў архіве польскай пісьменніцы захоўваюцца тры неапублікаваныя пісьмы Ф. Багушэвіча да Э. Ажэшкі на польскай мове.

Праўда, з артыкула і з урыўкаў з пісем Ф. Багушэвіча, якія змешчаны Э. Янкоўскім, вынікае, што захаваліся чатыры лісты: два з іх датуюцца 1892 г. (25 красавіка і 2 (14) лістапада), адно напісана 18 (30) кастрычніка 1897 г., на адным значыцца толькі лічба «20. IX» (паводле яго зместу Э. Янкоўскі лічыць, што гэты ліст напісаны 20 верасня 1899 г.).

У лісце ад 25 красавіка 1892 г. Ф. Багушэвіч шчыра дзякуе за нейкі рукапіс і просіць прабачэння, што абставіны не дазваляюць яму заехаць у Гродна па дарозе з Варшавы ў Вільню, каб сустрэцца з Э. Ажэшкай, каб яго дачка Тунька пабачыла славутую пісьменніцу. Тут жа беларускі паэт піша, што жадае сваёй дачцы не багацця і дастатку, а «шчасця ўмець як найлепш служыць шырокаму колу грамадства, узбагачацца духоўна, зразумець прызванне, прызначэнне чалавека і шчыра быць яму адданым».

У другім лісце беларускі паэт паведамляе адрасы людзей, якія маглі б даць Э. Ажэшцы звесткі пра грамадскую дзейнасць і прафесіянальны занятак жанчын.

Ліст ад 18 (30) кастрычніка 1897 г. напісаны Ф. Багушэвічам у сувязі з набліжэннем стагоддзя з дня нараджэння вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча. Аўтар «Дудкі беларускай» паведамляе Э. Ажэшцы, што віленскія жыхары—шчырыя прыхільнікі таленту вялікага песняра хочуць ушанаваць памяць А. Міцкевіча ў сваім горадзе і збіраюць для гэтага сродкі. «Ініцыятары не маюць сувязей у тых сферах, дзе грошы лёгка прыходзяцца і лёгка расходзяцца, ахвяраванні вельмі мізэрныя, хоць і паступаюць ад шматлікіх асоб; нам і трэба такія!» — піша Ф. Багушэвіч і звяртаецца да Э. Ажэшкі з просьбай, каб яна і яе гродзенскія знаёмыя прынялі ўдзел у гэтай высакароднай справе.

Ф. Багушэвіч у прыпісцы да гэтага ліста скардзіцца: «Улетку пачало непакоіць сэрца, а хацелася б пажыць хоць бы да таго часу, калі дзеці стануць на свае ногі». Каб развеяць смутак, паэт робіць яшчэ адну прыпіску: «Словам, заўсёды чалавек знойдзе прычыну, каб жыць! Як гэта смешна бывае часамі!».

Называючы Э. Ажэшку «каралевай жывога слова і прыгнечанай праўды», Ф. Багушэвіч у лісце ад 20 верасня (1899 г.?) гаворыць, што яго знаёмая збіраецца напісаць успаміны пра вядомага польскага мастака, удзельніка паўстання 1863 г. Міхала Андрыёлі.

Прыводзіць Э. Янкоўскі таксама ўрыўкі з лістоў іншых асоб, дзе ёсць звесткі пра Ф. Багушэвіча. Польскі літаратар Люцыян Узембла, які ў 1900 г. змясціў артыкулы пра беларускага паэта ў часопісах «Бесяда літэрацка» і «Век», у лісце да Э. Ажэшкі пісаў: «Напэўна, шаноўная пані ведае з газет пра смерць высакароднага Францішка Багушэвіча, ці Мацея Бурачка... Ён смерць сваю прадчуваў... І прыціхла дудка беларуская. Шкада такога сэрца, што горача білася для людзей. У праекце сціплая мемарыяльная дошка памяці Багушэвіча ў адным з касцёлаў Вільні. (Мемарыяльная пліта работы віленскага скульптара Арсімовіча ўстаноўлена была ў Жупранах. — С. А.). Маецца выйсці зборнік вершаў Багушэвіча пад назвай «Скрыпачка» (з ліста Л. Уземблы ад 22.IV (5.V) 1900 г.).

Размова пра беларускага паэта ідзе і ў лісце Л. Уземблы ад 13 (26) мая 1900 г., у якім ён запрашае Э. Ажэшку ўнесці свой уклад у справу ўшанавання памяці Ф. Багушэвіча.

Э. Янкоўскі паведамляе, што ў фондах архіва Э. Ажэшкі захоўваюцца два невядомыя творы Ф. Багушэвіча на польскай мове. Адзін з іх — наследаванне вядомага верша польскага паэта В. Поля «Песня аб нашай зямлі». Другі верш «Szumią jodły...» публікуецца поўнасцю ў артыкуле Э. Янкоўскага. У шуме сосен паэт чуе скаргу народа на сваю нядолю:

Szumią jodly na gór szczycie,
Szumią niewesoło,
Bo też smutne i ich życie,
Gdy smutek wokoło.

Wkoło nędza, pnie, mogiły,
Ucisk i niewola,
Wichry niszczą resztę siły,
Ciągle burze z pola...

Szumcie, jodły, na gór szczycie,
Szumcie głośniej, głośniej!
Może martwych obudzicie
I będzie rądośniej ..

Трэба адзначыць, што ў вершы «Szumią jodły...», які складаецца з 9 строф, спалучаюцца беларускія фальклорныя матывы з арыяй Ёнтака з оперы С. Манюшкі «Галька».

У артыкуле «Эліза Ажэшка і Францішак Багушэвіч» ёсць яшчэ адно цікавае месца. Э. Янкоўскі, спасылаючыся на С. Грынкевіча — аўтара артыкула «Сардэчныя прыяцелі з-пад Нёмана і Свіслачы» («Новы свят» № 38, 1955), паведамляе надзвычай паказальны факт, што зборнік Ф. Багушэвіча «Смык беларускі» быў выдадзены ў Пазнані пры дапамозе і садзеянні Э. Ажэшкі.

Нарэшце, Э. Янкоўскі адзначае, што ў фондах архіва Э. Ажэшкі захоўваецца фота Ф. Багушэвіча з яго аўтографам, падараванае, відаць, у сувязі з юбілеем пісьменніцы (датуецца фота 22 снежня 1891 г.).

Артыкул Э. Янкоўскага, апублікаваны на старонках «Нівы», узбагачае нашы звесткі пра жыццё і літаратурна-грамадскую дзейнасць Ф. Багушэвіча, знаёміць з матэрыяламі, якія сведчаць пра даўнія і слаўныя традыцыі беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей.

Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.

Мікола ВОРАНАЎ.

## ВАРОЖАЯ КАСКА

Каля ірва ўрасла яна ў траву,
Іржа ўпілася ў цёмнае жалеза...
Не ўратавала каска галаву
Ад партызанскіх куль галаварэзу.

Калісь, паклаўшы палец на курок,
Лавіў мішэнь ён прагнымі вачамі.
Ды каска адкацілася убок,
І ўдарылася свастыкай аб камень.

Іржа гарыць варожаю крывёй,
І свастыку на касцы раз'ядае.
Баяцца птушкі гнёзды віць у ёй,
Яны далей адгэтуль адлятаюць.

У нас набраўся б касак эшалон—
Тых, што ў вайну чужынцы
раскідалі.
Адвезці б іх, прастрэленыя, ў Бон
На памяць недабітым генералам.

## СУСТРЭЧА З ПАЭТАМ

Вучні Обальскай сярэдняй школы Сіроцінскага раёна сустрэліся з беларускім паэтам Пятром Глебкам.

Паэт расказаў аб беларускай літаратуры, пра тое, над чым працуюць пісьменнікі, падзяліўся творчымі планамі, адказаў на шмат якія пытанні.

У заключэнне П. Глебка прачытаў свае вершы «Наш сцяг» і «Размова аб шчасці».

А. КУРЛОВІЧ.

# Гвардзейцы





Жывапісныя ваколіцы Астрашыцкага Гарадка. У даліне віецца стужкаю рака Вяча. Навокал лясныя масівы падступаюць да шашы. Амаль ля самага Астрашыцкага Гарадка перасякаюцца дарогі на Мінск, Барысаў, Маладзечна, Лагойск. На гэтым скрыжаванні пасля вайны ўстаноўлены скульптуры савецкіх воінаў — танкіст і лётчык пільна глядзяць у далячынь. Тут з 26 па 28 чэрвеня 1941 г. змагаліся воіны, палітработнікі і камандзіры Сотай ордэна Леніна стралковай дывізіі.

... Раніца 26 чэрвеня 1941 г. Часці дывізіі займаюць агнявыя рубяжы раёна абароны Вярбіцкая—Астрашыцкі Гарадок. Камандзір дывізіі Іван Мікітавіч Русіянаў спакойна і ўдумліва вывучае баявую абстаноўку. І раптам нямецкія танкі. Яны паўзуць па шашы з боку Маладзечна і з боку Лагойска. І ўсе на невялікі Астрашыцкі Гарадок.

— Агонь! — камандуе Русіянаў.

І артылерысты ўступілі ў бой. Дзесяткі варожых машын згарэлі.

У гэтым баі ўдзельнічалі мінчане, якія ўступілі ў дывізію ў першыя дні вайны. Цяжка было змагацца супраць браніраваных машын ворага воінам-пехацінцам. Генерал-маёр І. Русіянаў загадаў падрыхтаваць бутэлькі з бензінам для падпалу танкаў і даставіць іх пяхоце. Спачатку мы грамілі фашысцкую нечысць снарадамі і звязкамі гранат, — пісаў потым важак воінаў-камсамольцаў старшы палітрук І. Мартынаў. — Але хутка вынаходлівыя байцы прыдумалі новы спосаб барацьбы з танкамі. Звычайную бутэльку напаўнялі бензінам, прапускалі ў сярэдзіну анучу, пакідаючы яе невялікі канец наверсе, і шчыльна затыкалі. Калі падыходзіў варожы танк, баец падпальваў анучу і кідаў з-за прыкрыцця самаробны, але грозны снарад, у глушыцель танка. Некалькі дзесяткаў варожых машын удалося нам вывесці са строю».

Гэта старшаму палітруку І. Мартынаву належаць крылатыя словы: «Камуніст мацнейшы за танк».

Воіны 331-га стралковага палка Сотай дывізіі пад камандаваннем палкоўніка камуніста Івана Уладзіміравіча Бушуева ў гэтым баі знішчылі два танкавыя і два пяхотныя батальёны фашыстаў. Асабістым прыкладам мужнасці і адвагі камандзір палка натхняў воінаў.

Напружанасць баёў нарастала з кожным днём, з кожнай гадзінай. Спачатку Астрашыцкі Гарадок захапілі фашысты, але потым ім завалодалі савецкія воіны. У самы адказны момант бою, калі два батальёны палка засталіся ў акружэнні, на выручку ім накіраваўся палкоўнік І. Бушуеў. Ён са сваім танкам пранік у тыл ворага і паспяхова вывеў батальёны з акружэння. На шляху назад І. Бушуеў на вуліцах Астрашыцкага Гарадка сустрэў мотапяхоту ворага, якую знішчыў агнём і гусеніцамі танка. Баявая машына атрымала пашкоджанне, а камандзір палка быў смяртэльна паранены.

У асабістай справе палкоўніка І. Бушуева захоўваецца кароткая і лаканічная атэстацыя і характарыстыка яго як камандзіра і камуніста. «Вытрыманы, дысцыплінаваны і стойкі бальшавік. У партыйным жыцці прымае актыўны ўдзел». Такім ён сябе праявіў і ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны.

28 чэрвеня часці Сотай дывізіі атрымалі загад адступіць з Астрашыцкага Гарадка і заняць рубеж на рацэ Волме. Бой ля Астрашыцкага Гарадка закончыўся поўным разгромам 25-га танкавага і 82-га матарызаванага нямецкіх палкоў і батальёна матацыклістаў.

Раніцаю 7 ліпеня 1941 г. падраздзяленні 355-га стралковага палка пад камандай палкоўніка Н. Шварава прыкрывалі адыход часцей Сотай дывізіі ля пераправы цераз раку ў раёне вёсак Сомры і Штайловічы Крупскага раёна. Намер ворага звозіўся да таго, каб адрэзаць шляхі адыходу нашай дывізіі. Ля вёсак Сомры і Штайловічы завязаўся бой. У ворага было больш тэхнічных сродкаў. Але савецкія воіны, у тым ліку разведчыкі, артылерысты, знішчылі і падбілі 12 аўтамашын, восем супрацьтанкавых гармат. У баі вызначыўся экіпаж бронемашыны старшага сяржанта камсамольца Якава Дзмітравіча Бяляева — удзельніка баёў ля Астрашыцкага Гарадка. І ў гэтым баі экіпаж Бяляева падбіў тры варожыя танкі. Але бронемашына камсамольца была пашкоджана, а сам Бяляеў, цяжка паранены, абліваючыся крывёю, працягваў весці бой. Наступным снарадам, які разарваўся ля машыны, Якаў Бяляеў атрымаў самае цяжкое раненне — ён пазбавіўся зроку. Але камсамолец да канца кіраваў разлікам, пакуль агонь ворага не абарваў жыццё адважнага воіна. Якаву Бяляеву першаму ў Сотай дывізіі ў Вялікую Айчынную вайну Савецкі ўрад прысвоіў званне Героя Савецкага Саюза.

На рубяжы пераправы цераз рачулку ля вёскі Сомры фашысцкія падраздзяленні пачалі цясніць адыходзячыя часці Сотай дывізіі. Трэба было затрымаць ворага, даць магчымасць нашым падраздзяленням адыйсці арганізавана. Гэтую задачу ўзяў на сябе камандзір батальёна маёр Сяргей Мікалаевіч Барташ. Ён са сваімі байцамі знішчыў і спаліў 12 аўтамашын, гружаных боепрыпасамі, і два танкі. Калі ў С. Барташа скончыліся патроны, ён з пісталетам кінуўся на ворага і ў рукапашнай забіў фашысцкага афіцэра. Так адважна змагаўся воін-беларус, ураджэнец вёскі Дабраволя Гродзенскай вобласці. Сваю службу С. Барташ пачаў у Чырвонай Арміі з 1918 г. Змагаўся супраць банд Дзянікіна, граміў контррэвалюцыйныя шайкі на Каўказе. Затым скончыў курсы камсаставу. Служыў у Беларусі. У перадваенныя гады працаваў у камендацкім упраўленні Мінска. Загінуў С. Барташ 6 жніўня 1941 г.

У жнівеньскія дні 1941 г. у радах воінаў з'явілася баявая песня «Марш Сотай дывізіі».

Смести саранчу, уничтожить
бандитов.
Клянемся мы, Родина-мать,
Захватчики будут в боях
перебиты,
Фашистам Москвы не видать.

Так гаварылася ў песні. Сотая дывізія граміла ворага пад Масквой, пад Сталінградам. Яна вызваляла Украіну. Сцяг гэтай дывізіі пераможна развінаўся на вуліцах вызваленай Вены.

Л. ЧВАНАЎ,
старшы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея Вялікай Айчыннай вайны.

На здымках: Герой Савецкага Саюза Я. Бяляеў, палкоўнік І. Бушуеў, маёр С. Барташ.

# Прамоўцы змоўчалі...

З усяго раёна на нараду партыйнага актыву з'ехаліся не толькі перадавікі. Прыбылі і тыя, што бралі на сябе вунь якія абавязацельствы, а калі даходзіла да справы, з году ў год іх не выконвалі.

Адразу можна было вызначыць, хто з прысутных перадавік. Хто больш намалаціў хлеба, надаіў малака, адкарміў свіней, той займаў пярэднія рады, хто не вызначаўся пленнымі здабыткамі, прымошчваўся на задніх крэслах.

З вялікім і цікавым дакладам выступіў першы сакратар райкома партыі Пятро Парфенавіч Астапаў. Выступалі старшыні праўленняў калгасаў, сакратары пярвічных партыйных арганізацый. Усе гаварылі больш пра адставанне, чым аб дасягненнях. І гэта, бадай, правільна, бо ўчарашнія поспехі не могуць задаволіць запатрабаванняў сённяшняга дня. Рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС вучаць, што ў цяперашні час немагчыма паспяхова весці сельскую гаспадарку без навуковай асновы, перадавога вопыту. Нехта абмовіўся, што землі свае апрацоўваем трактарамі, ураджаі малоцім камбайнамі, а гаспадарым саматужна. Крыху пачырванеў Мікалай Хацько — старшыня праўлення калгаса «Зара». Якніяк, ён мае вышэйшую адукацыю, скончыў педінстытут, а спытай у яго, што новае сёння ў сельскагаспадарчай навуцы, — ён бездапаможна развядзе рукамі. Кашлянуў у кулак і старшыня арцелі «Пераможца» Рыгор Граскоп. Пераглянуліся і астатнія кіраўнікі калгасаў. Што праўда то праўда.

Хто мог з высокай трыбуны кваліфікавана павесці размову аб укараненні навукі ў сельскую гаспадарку раёна? Нават работнікі райкома не назвалі прозвішча. Практыкі ёсць, а вось які старшыня праўлення пільна сочыць за навінкамі сельскагаспадарчай літаратуры — нават для сакратара райкома цяжкая загадка. Летась толькі арцелі імя Сталіна, «17 верасня» і «Сталінскі шлях» папоўнілі новай літаратурай свае бібліятэкі на 300 рублёў кожная. Прапагандай сельскагаспадарчых ведаў сярод калгаснікаў ніхто сур'ёзна не займаецца.

У раённую кнігарню паступіла многа навінак, сярод якіх — «Даведнік трактарыста», «Эканоміка і арганізацыя свінагадоўлі» і інш. Але яшчэ ніхто з кіраўнікоў калгасаў не пацікавіўся гэтай літаратурай. Напярэдадні нарады папоўніліся кніжныя паліцы бібліятэкі кабінета партыйнай асветы пры РК КПБ. Сярод навінак няма ніводнай брашуры па сельскай гаспадарцы.

— Можа ў райкоме не паважаюць сельскагаспадарчай літаратуры? — пытаемся мы.

— Нават дужа цікавяцца, асабліва з калгасаў, — адказвае работнік гэтай бібліятэкі Марыя Дзмітрачонак.

На вялікі жаль, навінкі сельскагаспадарчай літаратуры ў калгасы не даходзяць. Яны грувасцяцца на складах у Мядзельскай, Свірскай, Кабыльніцкай кнігарнях. Толькі ў Мядзелі ўстарэлай сельскагаспадарчай літаратуры і навінак, як сказала работніца прылаўка Леаніда Жыхар, ляжыць прыкладна да 60 тысяч рублёў (у маштабе старых цэн). А ў калгасных бібліятэках пустыя паліцы, хоць з году ў год ні ў адной арцелі раёна па прызначэнню не выкарыстоўваюцца сродкі культфонду.

Загадчыца Мядзельскай кнігарні Ала Новік звярнулася за парадай у райком партыі, як давесці да калгаснікаў сельскагаспадарчую літаратуру, якім чынам вызваліць паліцы і склад ад той літаратуры, якая губляе каштоўнасць. У райкоме параілі, каб кнігарня звязалася з раённай сельскагаспадарчай інспекцыяй; маўляў, яны што-небудзь падкажуць. Начальнік Мядзельскай сельгасінспекцыі Людміла Жэбрак развяла рукамі: «Не хапала яшчэ работы, каб кніжкамі гандляваць», — адказала яна і таксама пайшла ў райком.

Таваразнаўца па кнізе Мядзельскага райспажыўсаюза т. Роўда прапанавала ў кожным магазіне і ларку гандляваць кнігай. Пакутніца-кніга трапіла ў рукі да людзей, якія прадаюць фарбы, цвікі, каструлі, мыла, соль. Размясцілі палітычную, мастацкую і сельскагаспадарчую літаратуру, дзе ляжаць сядзёлкі (якраз было месца). Вядома, хто пацікавіцца збруяй, той убачыць і кнігу. Штодня перакладалі кніжкі з месца на месца. І, нарэшце, літаратуру сорамна стала паказваць пакупніку — настолькі запэцкалі вокладкі, што нельга адрозніць — гэта юшка з коміна ці кніжка.

— Ці ж гэта наша справа — кніжкі прадаваць, — апраўдваецца загадчыца гаспадарчага магазіна Марыя Чыкун. — Мы прынялі з кнігарні па акту і здадзім па акту. А што запэцкалі вокладкі — хто прадае дзёгаць, той кніжкамі не гандлюе.

У раймагу кніжкі ляжаць на прылаўку. Спецыяльнай прадаўшчыцы няма. «Хочаш бяры, хочаш не», — адказваюць работнікі раймага.

У нарыхтоўчым ларку таксама «збываюць» літаратуру. Падкрэсліваем — збываюць. У райспажыўсаюзе загадчыца ларка Ганна Талайка мае добрую славу. Аб сваім «метадзе» прапаганды літаратуры яна гаворыць:

— Усяк збываем. Хто бярэ ватовыя штаны або гумавыя боты — таму ў накладку кніжку пра цаліну ці кукурузу. Трэба ж неяк выконваць план.

Гэтак «выконваюць план» продажу літаратуры і многія работнікі спажывецкай кааперацыі раёна, бо ў райспажыўсаюзе ставяцца да гандлю кнігай як да продажу звычайных рэчаў: сядзёлак або ватовых штаноў, забываючы аб тым, што кніга—гэта ж невычарпальная крыніца ведаў, верны сябра і мудры настаўнік, і каму даручана гандляваць кнігай, той павінен быць не толькі прадаўцом у звычайным сэнсе слова. Ён — перш за ўсё прапагандыст кнігі. Для гэтага яшчэ недастаткова набыць вопыт работы за прылаўкам. Неабходна мець пэўны багаж ведаў. Аднак у райспажыўсаюзе на гэта не звяртаюць увагі. «Абы план», — падганяе работнікаў кніжнага прылаўка таваразнаўца т. Роўда. Летась на кожную душу насельніцтва ў раёне прададзена кніг на 14 руб. 80 к. (у старым маштабе цэн). Здаецца, нядрэнна. Але ж план з 680 тысяч рублёў выкананы ўсяго на 522. Вялікі тормаз у выкананні плана — няўважлівыя адносіны да сельскагаспадарчай літаратуры. Вінаваты ў гэтым самі работнікі кнігарні. Напрыклад, якога пакупніка зацікавіць кніга «У дапамогу вывучаючым эканоміку МТС» выдання 1956 г., што выстаўлена на паліцы. Дарэчы, на Мядзельшчыне каторы год ужо няма машынна-трактарнай станцыі. На паліцах выстаўлена нават старая кніга аб козагадоўлі.

А што на складзе? Вось кнігі: «У барацьбе за круты ўздым сельскай гаспадаркі», Мінск, 1955. Падручнік па агратэхніцы выдання 1953 г. — і цэлыя горы падобнай устарэлай літаратуры па сельскай гаспадарцы.

Вядома, у свой час гэтыя кнігі былі навінкамі. Яны прынеслі б вялікую карысць працаўнікам калгаснай вёскі. Аднак іх не ўмелі прапагандаваць. Навінкі сталі ўжо макулатурай.

Два гады назад райком партыі прапанаваў для кожнага калгаса стварыць бібліятэчку жывёлавода. У кнігарні была якраз патрэбная літаратура.

— Але ж гэта была толькі кампанія, — уздыхнуўшы, сказаў загадчык аддзела агітацыі і прапаганды райкома партыі т. Верабей і дадаў: — Стварылі некалькі бібліятэчак і на гэтым супакоіліся.

Уявім сабе малюнак. У кожным калгасе Мядзельшчыны багатая бібліятэка. На яе паліцах шмат сельскагаспадарчай літаратуры. На фермах і ў брыгадах бібліятэчкі даяркі, пастуха, свінаркі, паляводa, механізатара. Кожны калгаснік цікавіцца, што новае сёння ў сельскагаспадарчай навуцы, які перадавы вопыт трэба ўкараніць у родным калгасе. Людзі думаюць, спрачаюцца, знаходзяць шляхі ўздыму ўсіх галін гаспадаркі. Тады, вядома, на нарадзе партыйнага актыву па выніках студзеньскага Пленума ЦК КПСС адбылася б больш грунтоўная размова.

У час нарады да сакратара райкома па прапагандзе т. Усовіча звярнулася таваразнаўца па кнізе т. Роўда.

— Віталій Аляксандравіч, трэба выступіць на нарадзе, каб сельскагаспадарчую літаратуру набывалі калгасныя бібліятэкі.

— Ат, хопіць сёння ў нас пытанняў без гэтага. Усе раз'едуцца, зойдзеш да мяне ў кабінет, пагаворым.

Нарада скончылася. Усе раз'ехаліся. А магутная зброя ўздыму сельскай гаспадаркі, што стаіць на паліцах у кнігарнях, засталася некранутай. Аб ёй прамаўчалі.

М. ГРОДНЕЎ.
Мядзельскі раён.

## ,,Огоньковские" сустрэчы

На мінулым тыдні часопіс «Огонек» рабіў справаздачу перад сваімі мінскімі чытачамі.

Першая, вельмі цікавая, сустрэча адбылася ў бібліятэцы імя Горкага. Сюды прыйшло больш 400 чалавек—актыўныя падпісчыкі і чытачы «Огонька». Перад прысутнымі выступіў галоўны рэдактар часопіса пісьменнік Анатоль Сафронаў. Ён расказаў аб папулярнасці часопіса ў нашай краіне і за рубяжом, аб яго планах.

Затым слова ўзялі чытачы. Камсамолка Міра Фарносава, намеснік старшыні Саўнаргаса В. Свірыда, кандыдат тэхнічных навук А. Цюльпанаў, юрыст Б. Галаўнёў і іншыя абмяняліся думкамі аб артыкулах і нарысах, апавяданнях і вершах, фота і рэпрадукцыях, якія публікуюцца ў «Огоньке». Усе яны пажадалі часопісу ярчэй расказваць пра нашага савецкага чалавека—будаўніка камунізма.

У актавай зале філалагічнага факультэта БДУ імя Ул. І. Леніна адбылася сяброўская сустрэча-гутарка галоўнага рэдактара «Огонька» са студэнцкай моладдзю. У сустрэчы прыняў удзел беларускі пісьменнік Іван Шамякін. Чытачы Аляксандр Шлег, Ганна Навуменка, Яўген Ляхаў, Уладзімір Паўлаў і Анатоль Шыловіч крытыкавалі няўдалыя літаратурныя творы, надрукаваныя ў часопісе. Яны раілі «Огоньку» часцей пісаць аб моладзі, аб жыцці Беларусі. Тут жа было вырашана, што студэнты філфака падрыхтуюць у бліжэйшы час цікавы артыкул у часопіс.

У гэты ж вечар на сустрэчы з работнікамі рэдакцыі «Огонька» сабраліся вучоныя, пісьменнікі і журналісты Мінска, прадстаўнікі прадпрыемстваў Варашылаўскага раёна сталіцы. Гэтая гутарка прайшла ў вялікай канферэнц-зале Акадэміі навук БССР.

Работнікі «Огонька» на чале з А. Сафронавым сустрэліся таксама са сваімі чытачамі на аўтазаводзе.

В. ПЕТРУКОВІЧ.

На здымку: пісьменнікі А. Сафронаў і І. Шамякін сярод студэнтаў Белдзяржуніверсітэта імя Ул. І. Леніна.

# Новыя кароткаметражныя фільмы

На экраны рэспублікі выходзяць дзве новыя карціны Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. Розныя яны па жанру, тэматыцы, форме, вырашэнню, мэтах: адна ўслаўляе прыгажосць тварэнняў чалавечых рук, другая—выкрывае сапраўднае аблічча «святых прапаведнікаў».

### ПРАЎДА АБ «СВЯТЫХ МЕСЦАХ»

Гэта працяг размовы аб рэлігіі, пачатай нарысам «Праўда аб сектах-пяцідзесятніках», які абыйшоў усе экраны краіны. На гэты раз пад абстрэл узяты прайдзісветы са «святога ведамства», якія ідуць на ўсё, толькі б трымаць у паслухмянасці веруючых, яшчэ больш аблытаць іх павуціннем рэлігійнага фанатызму, каб жыць і багацець за іх кошт.

Вось на экране крыжы, мноства крыжоў. Але гэта не могілкі. Тут ніхто не пахаваны. Крыжы тыя зусім не за ўпакой, а за здароўе людзей і іх жывёлы ставяць дасціпныя дзялкі, распальваючы рэлігійны фанатызм лёгкадумных і цёмных людзей. Для дасягнення мэты прыдатны ўсе сродкі: і крыжы, і старыя легенды аб цудадзейнай сіле каменняў, дрэў, крыніц...

Крыніца ў вёсцы Кліны Слаўгарадскага раёна нічым не прыкметная. Але ў канцы лета, у царкоўны дзень памінання сямі братоў Макавеяў, вада тут нібы становіцца гаючай. Гэтую старажытную легенду падтрымліваюць шарлатаны. Зборышчы ля крыніцы для іх—жніво. Ёсць яшчэ наіўныя людзі, якія вераць: варта толькі даць нырца ў гэтую вадзіцу—і пройдуць усе хваробы ў жываце, а калі вы пакутуеце ад бяздзетнасці—вадзіца вылечыць... Адным словам — універсальны сродак ад усіх хвароб.

І аб'ектыў кінакамеры адлюстраваў на плёнцы ўсю працэдуру «лячэння». Чыстая і празрыстая крыніца ў «святыя» дні ператвараецца ў каламутную і брудную: адны купаюцца, другія мыюць абутак, а трэція п'юць гэтую ваду. Каго толькі не сустрэнеш тут. Вось Максім Казакоў. Ён не прапускае ніводнага падобнага зборышча. Паглядзіш, як ён старанна моліцца, і здаецца, што гэта ўвасабленне дабраты, паслухмянасці, сумленнасці. Але як толькі Казакоў здабывае грошы—пускаецца ў дзікае п'янства. Вось ён які, прапаведнік божы, вось каму вы аддаяце свае сумленна заробленыя грошы, веруючыя! Падобны да яго і Пётр Грышчанкоў—«намеснік бога на зямлі», як ён сябе называе. А кліенты Грышчанкова зусім не ведаюць, што ён кінуў жонку з дзіцём, што цяпер усё яго жыццё праходзіць у п'яным чадзе.

Выкрыты і Апанас Ткачэнка. Многія, гледзячы на сляпога старца, што імем бога просіць падаяння, расчуляцца. І сыплюцца ў яго шапку грошы. Але зусім не сляпы і не бедны Ткачэнка, жыхар сяла Краснае Гомельскай вобласці. Навошта працаваць, калі ёсць яшчэ наіўныя шчодрыя людзі. Іх падаянняў хапае, каб жыць, прыпяваючы, і будаваць прасторны мураваны дом.

Вось каму выгадна, каб да слаўгарадскай крыніцы прыходзілі веруючыя, каб яны прыносілі з сабою грошы і пайшлі адсюль маральна абкрадзеныя.

Галоўнае для аўтараў—паказаць, растлумачыць праўду аб «святых месцах» і даць магчымасць гледачу самому зрабіць вывад. Пажадаем ім і надалей захаваць гэты нядрэнны метад, дамагаючыся большай сілы і выразнасці зманціраваных кадраў, каб яны былі арганічна з'яднаны з музыкай і тэкстам, дакументальнымі шумамі, каб усё дыхала нянавісцю да прайдзісветаў.

Фільм «Праўда аб «святых месцах» павінен стаць зброяй нашых лектараў.

Ён дае матэрыял для роздуму. І гэта добра. Там, дзе мы можам прымусіць веруючага чалавека думаць, супастаўляць і рабіць правільныя вывады пра сваіх духоўных пастыраў,—мы выбіваем глебу з-пад ног розных рэлігійных захрыбетнікаў.

*) Дакументальны нарыс. Рэжысёр П. Шамшур, аператар Р. Масальскі.

### БЕЛАРУСКАЕ ШКЛО

Гэты каляровы фільм паэтычна і цікава расказвае пра беларускае шкло. Бадай, кожны ведае пра вырабы майстроў завода «Нёман», пра тое, што ёсць яшчэ некалькі заводаў: у Барысаве і пад Гомелем. А вось фільм не толькі паказаў, але і ўславіў творчасць людзей, якія са шкла выпрацоўваюць сапраўдныя творы мастацтва. Фільм паказвае царства ззяючага тысячамі граней крышталю, і мы з асалодаю любуемся гэтымі, часам нават простымі, узорамі, лініямі, формамі. І ўсё гэта стварылі людзі з багатай фантазіяй і залатымі рукамі.

Дзе ж крыніца іх натхнёнай творчасці, у якой яны чэрпаюць матывы, малюнкі, формы? Гэта наша жыццё, родныя сэрцу пейзажы.

На экране адзін з мноства цудоўных куткоў Белавежскай пушчы з магутнымі ўладарамі лесу—зубрамі. Гэты куток перанесены паэтычным уяўленнем і ўмелай рукой майстра-алмазчыка на крыштальную вазу. Вось на шкляных вырабах буслы. Усяго дзесятак ліній, але ўсё сказана, усё прыкмечана.

Беларускія мастацкія вырабы, як і ўсё ў нашай краіне, за апошні час вельмі змяніліся. І радасна, што ў лепшы бок. Яшчэ нядаўна ў магазінах прапаноўвалі вазы, графіны, шклянкі, келіхі, упрыгожаныя мноствам завітушак, выпукласцей і ўпадзін, якія стамляюць вока спалучэннем самых розных колераў і расфарбовак. Цяпер усё часцей убачыце вырабы больш простых форм, якія не робяць іх прымітыўнымі, а ствараюць уражанне закончанасці формы і гармоніі. Ды і расфарбоўка стала, несумненна, лепшай, без аляпаватых і мудрагелістых узораў.

Аб высокім майстэрстве нёманскіх майстроў сведчыць дыплом і бронзавы медаль Сусветнай выстаўкі ў Бруселі.

Але шкло не толькі ўпрыгожвае наша жыллё. Шкло цяпер трывала ўваходзіць ва ўсе сферы дзейнасці чалавека.

Тканіна са шкла. Яшчэ нядаўна гэта было дзіва. А ўжо сёння яна з поспехам прымяняецца там, дзе не вытрымлівае шоўк, лён. Шкляная тканіна не баіцца ні вільгаці, ні агню. У яе вялікая будучыня. Калі раней гаварылі, што будоўлям патрэбна шкло, дык падразумявалі, вядома, вокны. Больш будаваць дамоў — больш вокнаў. А значыць, больш трэба шкла. Але гэта не зусім так. Шкло цяпер неабходна не толькі для вокнаў, яно патрэбна і для сцен. Так, пенашкло, выпушчанае ўпершыню ў Савецкім Саюзе на Гомельскім заводзе, ужо заваявала сабе добрую славу. Уявіце сабе, у вадзе плаваюць пліткі шкла. Не тонуць. Бо пенашкло вельмі лёгкае, прычым вельмі трывалае, гуканепранікальнае, лёгка паддаецца механічнай апрацоўцы.

Раней праца шкладува была неверагодна цяжкой: нязносная спякота, вялікае напружанне, доўгі рабочы дзень, адсутнасць аховы працы. Цяпер, дзе толькі можна, чалавека замяняюць машыны, яны выконваюць самую складаную работу. На Барысаўскім заводзе шклянкі выпрацоўвае разумная машына-аўтамат. 30 тысяч шклянак за суткі—нядрэнная прадукцыйнасць. На дапамогу ідзе электроніка. Думка канструктара шукае, як можна даверыць механізмам іншыя працэсы вытворчасці шкла.

Фільм у паэтычнай форме расказвае нам цікавую біяграфію шкла, малюе запамінальныя партрэты людзей, якія здолелі ў шкле выказаць свае мастацкія задумы для радасці чалавека.

Аператар С. Фрыд здолеў добра перадаць на экране прывабнасць беларускага мастацкага шкла, яго дзівосную прыгажосць.

Р. КАРЭЦКІ.

**) Навукова-папулярны фільм Рэжысёр В. Стральцоў, аператар С. Фрыд.

## ХРОНІКА

Народны артыст Саюза ССР, лаўрэат Сталінскай прэміі Платонаў Барыс Віктаравіч прызначаны мастацкім кіраўніком Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага ордэна Працоўнага Чырвонага сцяга тэатра імя Янкі Купалы.

## ПАПРАЎКА

У артыкуле «Сучаснасць і гісторыя» («Літаратура і мастацтва» за 17 лютага г.г.) у першай калонцы (трэцяя паласа) у трэцім абзацы трэба чытаць: «...хоць рэпертуар яго не бездакорны».


Галоўны рэдактар Янка ШАРАХОЎСКІ.
Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара — 3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі — 3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00083.

Друкарня імя Сталіна.